КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 8 (329) ◂ 1 сакавіка ◂ 2013 г.
www.novychas.org

# Новы Час

ISSN 2218-2144



**РЭНЕСАНС, БЕЛАРУСЬ І ХОФХАЙМЕР**

Стар. 15

**БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ФОБІІ**

Многія аналітыкі, палітыкі і палітолагі сцвярджаюць, што беларуская ўлада трымаецца на страху

Стар. 5

**ІТАЛІЯ. ПАЧАТАК ТРЭЦЯЙ РЭСПУБЛІКІ**

Выбары ў італьянскі парламент сталі асноўнай тэмай шматлікіх вядучых замежных СМІ і вядомых аналітыкаў

Стар. 13

**ХТО ПАЛЯВАЎ НА САВЕЦКІХ АФІЦЭРАЎ У БАБРУЙСКУ**

Стар. 14

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**ПАЭТ І ІМПЕРАТРЫЦА**

Нарыс Ігара Мельнікава

З НАГОДЫ

# ПРАВААБАРОНЦАЎ ХОЧУЦЬ СКАРЫСТАЦЬ

*Сяргей ПУЛЬША*

**Прыйшла бяда да беларускага кіраўніка, адкуль не чакалі. Раней яго дзяўблі разнастайныя заходнія арганізацыі з пытаннямі пра парушэнні правоў чалавека. Зараз да гэтага далучыцца і братэрская Расія. Савет па развіцці грамадзянскай супольнасці пры прэзідэнце РФ абзавёўся новай камісіяй, якая будзе вывучаць сітуацыю з правамі чалавека ў іншых краінах. Плануецца, што гэтыя даклады будуць класціся на стол Пуціну.**




Зразумела, што стварэнне новай камісіі — гэта расійскі «адказ Чэмберлену» на шматлікую крытыку з боку ЗША і Еўропы. Гэта адказ на «Акт Магніцкага», на закідоны з нагоды асуджэння «Pussy Riot», на з'яўленне ў Расіі палітычных зняволеных. Расіі неяк трэба адказваць на гэтыя выклікі. І прыкладам для рэагавання стала, як амаль заўсёды, Беларусь.

Ва ўсіх яшчэ не знік з памяці даклад беларускага МЗС «Парушэнні правоў чалавека ў асобных краінах свету ў 2012 годзе». Той самы, які амерыканскі часопіс «Foreign Policy» называў «цікавым чытвом, дзе ўсё пастаўлена з ног на галаву», няправільна названа імя кандыдата ад партыі «Зялёных» на апошніх прэзідэнцкіх выбарах у ЗША Джыл Стайн, і дзе яна фігуруе як мужчына.

Расіяне зрабілі высновы. Папершае, іх даклады будзе фарміраваць не дзяржаўны орган, а дэ-юрэ грамадскі. Па-другое, каб не было падобных да беларускіх «ляпаў», займацца падрыхтоўкай гэтых дакладаў будуць прафесійныя праваабаронцы.

І самае непрыемнае для Беларусі — кіраўніком камісіі абраны Андрэй Юраў. Гэта той самы Юраў, які з 27 снежня 2010 года ўзначальвае Міжнародную назіральную місію за сітуацыяй з правамі чалавека ў Беларусі, створаную ў сувязі з масавымі парушэннямі правоў чалавека пасля прэзідэнцкіх выбараў. Той, якому 17 сакавіка 2011 года УУС Савецкага раёна Мінска прадпісаў пакінуць Беларусь на працягу 24 гадзін, і які знаходзіцца ў спісе асоб, чыё знаходжанне на тэрыторыі краіны непажаданае. Юраву таксама часова забаронены ўезд у Беларусь.

Тое, што ў гэтай сітуацыі пытанне Беларусі ўзнікне на павестцы дня камісіі — да варажэі не хадзі. Сам жа Юраў пасля свайго абрання пацвердзіў, што «асаблівая ўвага» ў працы камісіі будзе нададзена сітуацыі з правамі чалавека ў прасторы Мытнага саюза і краін СНД. Больш за тое, пры камісіі будзе працаваць спецыяльная экспертная група, магчыма, нават з удзелам беларускіх праваабаронцаў у якасці незалежных міжнародных экспертаў.

Такім чынам, Пуцін будзе больш праінфармаваны пра парушэнне правоў чалавека ў Беларусі.

Але, пры ўсім аптымізме Юрава, наўрад ці ад яго камісіі будзе нейкі плён. Прыкладам, жонкі і родзічы зніклых у Беларусі палітыкаў і аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага неаднаразова звярталіся да Пуціна, каб ён паўплываў на Лукашэнку і паспрыяў расследаванню гэтых спраў. У адказ — цішыня. З аналагічным пасланнем, але ўжо да Дзмітрыя Мядзведзева, звярталіся і жонкі палітычных зняволеных пасля Плошчы–2010. Расійскае пасольства ў Беларусі нават паінфармавала, што перадало Мядзведзеву іх ліст, а пасол Расіі ў Беларусі спадар Сурыкаў прыняў некаторых з іх. Далейшай рэакцыі з расійскага боку не было.

Беларускія праваабаронцы і эксперты лічаць, што ніякай рэакцыі на парушэнні правоў чалавека ў Беларусі не будзе і зараз. Бо вельмі ўжо важны для Расіі Лукашэнка як партнёр па кааліцыі. Папершае, на ягоным фоне Расія ў галіне правоў чалавека выглядае ледзьве не цнатлівай дзяўчынкай. Па-другое, рыторыка ў адносінах да Захаду ў Расіі значна змянілася і амаль дасягнула ўзроўню «халоднай вайны». У гэтым рэчышчы мецца такога «антызаходняга» партнёра, як Лукашэнка, Расіі вельмі выгадна. Маўляў, не мы адны тут успрымаем Захад як злачынцу, а не як «калыску дэмакратыі».

Ёсць у гэтай сітуацыі яшчэ і трэці аспект, пра які распавёў праваабаронца Валянцін Стэфановіч. Па ягоных словах, праваабаронцаў могуць скарыстаць зусім не ў тых мэтах, на якія яны спадзяюцца. «У нас ёсць пэўны досвед супрацоўніцтва з расійска-беларускай камісіяй па правах чалавека. Гэтая камісія таксама была створана пры Савеце па правах чалавека пры прэзідэнце Расіі. Узначальвала яе пэўны час Эла Панфілава. У выніку мы выйшлі сысці адтуль па адной банальнай прычыне: камісія ўспрымала правы чалавека з палітычных пазіцый. То бок, яна ўсяляк прапіхвала Саюзную дзяржаву, адзіную эканамічную прастору, і ў гэтым рэчышчы ўспрымала правы чалавека і іх парушэнні. Мы ж не ўспрымалі Саюзную дзяржаву, таму вымушаныя былі адтуль сысці», — кажа Стэфановіч.

Дый наўрад ці Пуцін не ведае пра парушэнні правоў чалавека ў Беларусі. Але ж, па меркаванні Стэфановіча, дзеля гэтага ён не стане ахвяраваць нацыянальнымі інтарэсамі Расіі і партнёрствам у шматлікіх сферах, у тым ліку вайсковай. Пуцін, канешне, можа цішком «падколваць» Лукашэнку з нагоды парушэнняў правоў чалавека, згадваць непрыемныя для беларускага прэзідэнта факты, калі спатрэбіцца вывесці «малодшага брата» з раўнавагі. Але так, каб усур'ёз націснуць на яго з мэтай палепшыць сітуацыю ў праваабарончай сферы, — гэтага не будзе.

Таму пазіцыя Расіі будзе заставацца стабільнай: «Ён, канешне ж, сукін сын, але гэта наш сукін сын». Афіцыйная пазіцыя Расіі і надалей будзе палягаць у тым, што Беларусь не з'яўляецца дыктатурай, выбары ў РБ праходзяць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам, а асобныя парушэнні правоў чалавека не вартыя таго шуму, які вакол іх раздуваецца. Расія будзе актыўна абараняць Беларусь на сусветнай арэне, крытыкуючы ЗША і краіны Захаду за санкцыі супраць «сінявокай» і ўсяляк падтрымліваць хаўрусніка.

Папросту таму, што ў галіне выканання правоў чалавека Расія сама цвёрда і ўпэўнена рухаецца па беларускім шляху. Пэўна, ёй цікава, ці зможа яна зайсці настолькі далёка ад сусветных стандартаў, як Беларусь.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ЗНАЙСЦІ ЎПРАВУ НА МІЛІЦЫЮ

**Валерый Вусік напісаў скаргі ў пракуратуру і начальніку УУС Магілёўскага аблвыканкама на дзеянні супрацоўнікаў Бялыніцкай міліцыі.**

26 лютага на былога дэпутата Бялыніцкага райсавета Валерыя Вусіка ўчастковым інспектарам Бялыніцкага РАУС Сяргеем Карыткіным 26 лютага былі складзены адміністрацыйныя протаколы нібыта за паклёп на адрас старшыні СВК «Лебедзянка» Пятра Бялова і за распаўсюд незалежнай газеты «Магілёўскі Выбар».

«Я лічу, што на мяне аказваецца ціск за маю актыўную пазіцыю ў выкрыцці шматлікіх парушэнняў у дзейнасці СВК «Лебедзянка», — кажа Валерый Вусік. — Складаць на мяне пратаколы за быццам бы нейкія парушэнні, без праверкі выкладзеных у маім звароце фактаў з дапамогай рэвізіі дзейнасці адміністрацыі СВК «Лебедзянка», папросту няправільна.

Яшчэ большае глупства патрабаваць ад мяне нейкага дазволу на распаўсюд газеты «Магілёўскі Выбар», у заканадаўстве гэта нідзе не прадугледжана. Менавіта за распаўсюд незалежнай газеты, выдадзенай згодна з Законам аб СМІ, Сяргей Карыткін склаў на мяне другі пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Чаму ж тады не патрабуюць ніякіх пасведчанняў ад паштальёнаў, якія распаўсюджваюць дзяржаўныя выданні?

Дарэчы, абодва паштальёны з маёй вёскі Лебедзянка мне пісьмова пацвердзілі, што такіх пасведчанняў у іх проста няма, ніхто іх ніколі не выдаваў.

Я пракансультаваўся з праваабаронцамі і напісаў скаргі на дзеянні супрацоўнікаў Бялыніцкага РАУС у пракуратуру Бялыніцкага раёна і Магілёўскай вобласці, а таксама начальніку УУС Магілёўскага аблвыканкама Фёдару Балейку. Акрамя гэтага, накіраваў зварот да кіраўніка краіны Аляксандра Лукашэнкі ў яго адміністрацыю. Хачу, каб адміністрацыя прэзідэнта выказала сваё меркаванне аб дзеяннях супрацоўнікаў міліцыі, якія пераследуюць выбарщчыка неабгрунтавана за праўдзівую інфармацыю».

Паводле spring96.org

ХРОНІКА

# «ХВАЛЯ САЛІДАРНАСЦІ»: ТРАЦІНА ШЛЯХУ

Сяргей ПУЛЬША

**Абвешчаная аргкамітэтам па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» «Хваля салідарнасці» з палітвязнямі доўжыцца ўжо больш за два тыдні.**

24 лютага быў заблакаваны сайт БХД. «На нашай заблакаванай старонцы першы час вісела нават папярэджанне, што сайт заблакаваны «Белтэлекамам», а з-за мяжы і з дапамогай проксі-сервераў сайт адкрываўся нармальна», — сказаў адказны сакратар БХД Дзяніс Садоўскі. У сераду праца сайта аднавілася.

«Безумоўна, гэта блакаванне звязанае з марафонам «Хваля салідарнасці». Але блакаванне сайта ніяк не паўплывала на сам марафон», — заявіў Садоўскі.

Між тым, 22 лютага «Хваля салідарнасці» прайшла ў Мінску. Па горадзе ездзілі каля дзесяці машын актывістаў БХД, на якіх былі змешчаныя партрэты палітвязняў, інфармацыя пра іх і заклікі іх падтрымаць. Таксама сябры БХД правялі акцыю салідарнасці з палітвязнямі на Акрэсціна, трымаючы ў руках партрэты палітвязняў Паўла Севярынца і Яўгена Васьковіча.

Мінскія сябры БХД напісалі 20 віншаванняў беларускім палітвязням, перадусім Паўлу Севярынцу, Яўгену Васьковічу, Зміцеру Дашкевічу і Алесю Бяляцкаму. Улёткі з інфармацыяй пра палітвязняў былі раскіданыя па паштовых скрынях мінчукоў.

Больш крэатыўна падышлі да салідарнасці ў Кобрыне. 23 лютага там быў прэзентаваны фільм «Зміцер Дашкевіч. Я веру». Аўтарам фільма з'яўляецца сустаршыня аргкамітэту БХД Георгій Дзмітрук.

У падмурку фільма ляжыць інтэрв'ю, якое лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч даў у 2008 годзе. Ідэя зрабіць з яго фільм з'явілася ў Георгія Дзмітрука пасля таго, як Дашкевіч зноў апынуўся за кратамі. «Гэтым фільмам я хацеў паказаць погляды Дзімы, яго матывацыю, тое, чаму ён робіць так, а не інакш. Магчыма, ягоныя словы дапамогуць людзям, якія вераць і ў Бога, і Богу, і ў будучыню Беларусі, інакш паглядзець на сучаснасць. Бо ў нашы, здаецца, мірныя часы многія людзі за свае думкі і імкненне зрабіць Беларусь лепшай, павінны расплочвацца свабодай», — адзначыў Дзмітрук.

25 лютага аб палітвязнях даведаліся жыхары Магілёва. Сябры БХД і сябры іншых дэмакратычных арганізацый горада, якія далучыліся да іх, распаўсюджвалі ўлёткі, размаўлялі з людзьмі на вуліцах і ў транспарце. Увечары ў адным з храмаў горада адбылася малітва за здароўе палітвязняў.

26 лютага шэраг акцый прайшоў у Ваўкавыску. Актывісты БХД распаўсюдзілі ўлёткі з інфармацыяй пра палітвязняў на прыпынках грамадскага транспарту і на міні-рынку ў гарадскім мікраёне. Увечары прайшла малітва за вызваленне бязвінна асуджаных.

27 лютага марафон прайшоў у Мёрах. Мясцовыя актывісты БХД паўтара тыдні распаўсюджвалі па горадзе ўлёткі з інфармацыяй пра палітвязняў, а таксама распавядалі людзям пра сітуацыю са зняволенымі апанентамі ўлады. Самім палітвязням былі дасланы капэрты з віншаваннямі.

28 лютага «Хваля Салідарнасці» дасягнула Пінска. Тут з дапамогай актывістаў БХД сваю салідарнасць з палітвязнямі выказалі снегавікі. У гарадскім парку насупраць Палескага ўніверсітэта яны патрабавалі вызваліць сустаршыню БХД Паўла Севярынца.

ДЭМАГРАФІЯ

# ПЕНСІЯНЕРАЎ СТАНЕ БОЛЬШ

Вольга ХВОІН

**Мінэканомікі Беларусі прагназуе да 2032 скарачэнне працоўнага патэнцыялу і старэнне нацыі. Змагацца з наступствамі гэтых працэсаў плануецца метадам правядзення пенсійнай рэформы, будаўніцтвам новых прадпрыемстваў і вытворчасцяў.**

Скарачэнне працоўнага патэнцыялу прагназуецца больш чым на 870 тысяч. Таксама сельская мясцовасць страціць пятую частку насельніцтва (472 тысяч чалавек). Асабліва значныя страты можа панесці Віцебская і Гродзенская вобласці, на долю якіх будзе прыходзіцца больш за 40% агульнай страты сельскага насельніцтва рэспублікі.

Нязменная структура эканомікі рэгіёнаў прывяла да таго, што эканамічнае надвор'е робяць нешматлікія валаўтваральныя прадпрыемствы, якія фарміруюць больш за 50% вытворчасці рэгіёну і функцыянуюць яшчэ з часоў СССР. У Віцебскай, Гомельскай, Гродзенскай і Магілёўскай абласцях найбольш вострa стаіць праблема стварэння новых вытворчасцей у мэтах зніжэння залежнасці развіцця гэтых рэгіёнаў ад уплыву дамінуючых прадпрыемстваў. Развіццё патэнцыялу абласцей адбываецца ў асноўным за кошт гарадоў абласнога падпарадкавання і некалькіх прамысловых раёнаў. 79 раёнаў з 118 (ці 70%) адстаюць у эканамічным развіцці ад сярэднеабласнога ўзроўню (па выручцы ад рэалізацыі на 1 занятага) і, адпаведна, узроўню заработнай платы (без уліку гарадоў і раёнаў, на тэрыторыі якіх размешчаны буйныя прамысловыя прадпрыемствы). На гэтыя праблемы накладваюцца рызыкі дэмаграфічнага прагнозу да 2032 года.

Па класіфікацыі ААН, насельніцтва краіны лічыцца старым, калі доля людзей старэйшых за 65 гадоў складае 7%. Цяпер у Беларусі пажылыя людзі складаюць 22 працэнты насельніцтва краіны. З кожным годам іх становіцца больш, і адзін з прагнозаў сцвярджае, што да 2030 года гэты паказчык наблізіцца да 25%.

Таму цяпер вядуцца размовы пра рэформу пенсійнай сістэмы. Так, міністр працы і сацыяльнай абароны Мар'яна Шчоткіна заявіла, што пенсійная сістэма павінна рацыянальна расходаваць наяўныя пенсійныя сродкі, улучаючы ў сябе тры кампаненты: дзяржаўны, карпаратыўны, добраахвотна-назапашвальны. Міністр адзначыла, што для развіцця ў Беларусі схем добраахвотнага карпаратыўнага пенсійнага страхавання ў 2012 годзе ва ўсе рэспубліканскія органы былі накіраваны рэкамендацыі і распавяла, што прапрацоўваюцца пытанні паступовага пераходу да вылічэння пенсій па дадзеных персаніфікаванага ўліку.

ЗАЯЎКА

# ПІКЕТ У ДЗЕНЬ КАНСТЫТУЦЫІ

Марат ГАРАВЫ

**27 лютага актывісты Грамадзянскай ініцыятывы супраць беззаконня ў судах і пракуратуры падалі заяўку ў Мінскі гарвыканкам на правядзенне 15 сакавіка ў цэнтры сталіцы пікетавання з нагоды Дня Канстытуцыі.**

У заяўцы, між іншым, адзначаецца, што ў акцыі будуць удзельнічаць не болей за 20 актывістаў ініцыятывы з усіх рэгіёнаў Беларусі, якія вядуць нармальны лад жыцця і карыстаюцца павагай у грамадстве, прычым большасць з іх — жанчыны сталага ўзросту.

Падчас пікетавання мяркуецца выкарыстанне плакатаў наступнага зместу: «У Канстытуцыі правы і свабоды на паперы, а нам яны патрэбныя ў жыцці!»; «Забеспячэнне правоў і свабодаў грамадзян Рэспублікі Беларусь з'яўляецца найвышэйшай мэтай дзяржавы (артыкул 21 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь)» і «Патрабуем ад чыноўніцтва выканання Канстытуцыі краіны!».

Заяўнікі акцыі звяртаюць увагу гарадскіх уладаў на тое, што права на свабоднае выказванне свайго меркавання і правядзенне пікету дадзена артыкуламі 33 і 35 Канстытуцыі краіны і артыкуламі 19 і 21 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах. Механізм рэалізацыі гэтага права вызначаны Законам Рэспублікі Беларусь «Аб масавых мерапрыемствах».

Як адзначыла НЧ лідар ініцыятывы, юрыстка Тамара Сяргей, паколькі Канстытуцыя валодае вышэйшай юрыдычнай сілаю, асноўны закон краіны, дзе зафіксаваны правы і свабоды чалавека, з'яўляецца тым дакументам, які абараняе людзей. «А людзі, у свою чаргу, павінны вучыцца карыстацца гэтым найважнейшым прававым дакументам і абараняць яго дзеля сябе і грамадства. Вось чаму мы выходзім на гэты пікет менавіта ў Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь 15 сакавіка».

ЗВАРОТ

# АБАРАНІЦЕ КАЛОНІЮ ВАРБУРГ

**Культуролаг Ала Сідаровіч, выкладчыца ЕГУ Алена Саўко, дацэнт ГрДУ Іна Соркіна і шэраг іншых дзеячаў навукі і культуры звярнуліся да СМІ і грамадзян Літвы з адкрытым лістом.**

Падпісанты выказваюць сваю занепакоенасць тым фактам, што з «культурнага ландшафту Брэста пры ўдзеле літоўскай кампаніі «Glera» можа знікнуць унікальны для еўрапейскага маштабу аб'ект і месца памяці, звязанае з гісторыяй І і ІІ сусветных войнаў і лакальнай гісторыяй мясцовай габрэйскай абшчыны — Калонія Варбург».

Гісторыкі атрымалі інфармацыю, паводле якой бліжэйшым часам у Брэсце могуць быць знесеныя 2 будынкі архітэктурнага комплексу калоніі Варбурга. Правядзенне падрыхтоўчых работ для будаўніцтва супермаркета літоўскага прадпрыемства «Glera» можа пашкодзіць квартал драўляных дамоў у гістарычным цэнтры Брэста.

«Паважанае спадарства, — адзначаецца ў лісце, — звяртаемся да вас з глыбокім перакананнем, што ваша ўвага да акрэсленага пытання, можа паўплываць на рашэнне фірмы-інвестара «Glera» будаваць супермаркет на тэрыторыі калоніі Варбурга і дапаможа захаваць не толькі культурны ландшафт Брэста, але і ўнікальнае месца памяці».

Калонія Варбург — квартал з 12 двухпавярховых драўляных дамоў — з'явіўся ў горадзе ў 1925 годзе з ініцыятывы арганізацыі American Joint Distribution Committee. Сваю назву квартал атрымаў ад імя аднаго з заснавальнікаў — Фелікса Варбурга. Першымі жыхарамі былі сем'і самых бедных брэсцкіх габрэяў, якія вярнуліся ў Брэст без сродкаў на аднаўленне сваіх дамоў. Запраектаваная ў архітэктурным стылі, які большасць даследчыкаў адносяць да «закапанскага», калонія Варбурга стала невялікім кварталам са сваёй уласнай інфраструктурай.

На сёння з 12 дамоў калоніі Варбурга захавалася 7. Адзін — унесены ў Спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў і знаходзіцца пад аховай дзяржавы.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# «АКУРАТНЕНЬКІ» РОСТ ЦЭН

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Здаецца, нейкі нядобразычлівец паведаміў Аляксандру Лукашэнку, колькі каштуе каўбаса і якая інфляцыя ў Беларусі здарылася за апошні месяц. Кіраўнік Беларусі быў у шоку. Аж да таго, што згадаў першыя дні свайго прэзідэнцтва, калі ён загадаў коштам на хлеб «павярнуць назад». Зараз рыторыка менш ваяўнічая. Лукашэнка патрабуе ад урада папросту не дапускаць неабгрунтаванага росту цэн.**




На нарадзе аб дзейнасці Рады па развіцці прадпрымальніцтва ў Беларусі таварыш прэзідэнт даў даручэнні па пытаннях цэнаўтварэння і інфляцыі. «Гэта пытанне ўрада. У мінулым годзе, калі мы выходзілі з гэтага незразумелага фінансавага стану, я проста заплюшчваў вочы на некаторыя працэсы, калі нават адміністрацыйна мы павышалі цэны. Я вам павінен сказаць, што з гэтага года гэта заканчваецца. Хай бізнэсмэны потым мяне не папракаюць, што дзяржава ўмешваецца ў нешта. Мы будзем гэта рабіць кропкава, акуратна. Калі такая інфляцыя, рост цэн, аб якім развіцці або мадэрнізацыі можа ісці гаворка?! Таму думайце, як мы будзем працаваць у гэтым годзе, каб усё-ткі інфляцыя і цэны раслі прымальна і для грамадства, і для вытворчасці», — адзначыў Лукашэнка.

Такім чынам, Лукашэнка заявіў пра дзве рэчы. Па-першае, у збядненні народа і высокіх коштах у крамах вінаватая дзяржава, бо дзяржава «нават адміністрацыйна» падвышала цэны. Па-другое, кошты будуць расці і надалей: хоць «кропкава», хоць «акуратна», але цэны падвышацца будуць. І не трэба мець ніякіх ілюзіяў наконт гэтага.

Але нехта Лукашэнку недачуў. Альбо проста можа не павышаць цэны, і не будзе гэтага рабіць. Напрыклад, віцэ-прэм'ер рэспублікі Анатоль Калінін заявіў, што ў Беларусі ў 2013 годзе кошт 1 квадратнага метра жылля, якое ўзводзіцца з дзяржаўнай падтрымкай, не перавысіць памеру сярэдняй зарплаты па краіне. «Сярэдні кошт 1 квадратнага метра жылля не павінен выходзіць за памер сярэдняй збалансаванай намінальнай зарплаты. Гаворка ідзе толькі пра кошт жылля, якое ўзводзіцца з дзяржаўнай падтрымкай. Мы вытрымалі гэтыя ўмовы ў 2012 годзе і спадзяемся вытрымаць іх і ў гэтым годзе», — сказаў Калінін.

Больш за тое, па ягоных словах, кантракты на долевае будаўніцтва будуць заключацца на ўмовах нязменнай цаны і жорсткіх тэрмінаў будаўніцтва. Калі тэрміны не вытрымліваюцца, наступнае будаўніцтва забудоўшчык будзе ажыццяўляць за свае сродкі. Аналагічныя ўмовы будуць дзейнічаць і ў дачыненні да жылля, якое будуецца на аснове дзяржзаказу.

З першага погляду: гонар і слава Калініну! Знайшоўся ва ўрадзе хоць адзін чалавек, які выступіў у абарону народных інтарэсаў, супраць высокіх цэнаў, хай толькі ў адной галіне гаспадаркі! Але насамрэч усё не так. Нагадаем, што напачатку 2012 года сярэдні налічаны заробак у Беларусі складаў 2,88 мільёна рублёў. А сярэдні налічаны заробак за студзень 2013 года — 4 мільёны 368 тысяч рублёў. Так што вартасць квадратнага метра зусім не патаннела, а наадварот, вырасла. І расці яна ўсё роўна будзе, з ростам заробку.

Тым больш, што наперадзе ў нас — штогадовая маштабная акцыя па закопванню грошай у зямлю. Праз два тыдні стартуе традыцыйны першы этап вялікай бітвы за ўраджай — пасяўная. Па разліках ураду, будзе закапана ў зямлю 13,8 трыльёна рублёў, што складае прыкладна 1,59 мільярда долараў.

Як распавёў кіраўнік Мінсельгасхарча Беларусі Леанід Заяц, каля 7,3 трыльёна рублёў будзе выдаткавана на мінеральныя ўгнаенні, 2,6 трыльёна — на гаруча-змазачныя матэрыялы, 1,8 трыльёна — сродкі абароны раслін, 1,2 трыльёна — насенне, запчасткі і рамонт тэхнікі — 0,9 трыльёна рублёў.

Вельмі дзівіць тое, што частка гэтых грошай выдаткоўваецца сёння. Ну, хай там сродкі абароны раслін, угнаенні і іншыя, якія павінны быць свежымі. Але любая гаспадыня, якае мае хоць свае 6 сотак зямлі, з мінулай восені ўжо назапасіла пасяўную бульбу, лук-сявок, ужо рыхтуе пад рассаду гуркі і памідоры. Гэтая праца павінна была праводзіцца з восені. Тое ж самае тычыцца і тэхнікі: сабраў ураджай — пастаў яе належным чынам на кансервацыю, а што трэба, падрамантуй у пачатку зімы. Да вясны мы павінны быць гатовымі заўсёды, а не ачомвацца, як сонейка прыпячэ.

На ўраджай у нас планы напалеонаўскія, як звычайна. Беларускія ўлады плануюць у 2013 сельгасгодзе сабраць 10,9 мільёна тон збожжа (уключаючы кукурузу). Акрамя таго, плануецца сабраць 7,6 мільёна тон бульбы, 4,5 мільёна тон цукровых буракоў, 2,2 мільёна тон гароднiны, 180 тысяч тон ільнотрасты.

Усе пералічаныя планы з'яўляюцца папярэднімі і па ходзе бітвы за ўраджай будуць карэктавацца, зыходзячы з умоў надвор'я і разнастайных форс-мажораў, уключаючы ворагаў па перыметры і несумленную канкурэнцыю на сусветным рынку з боку вытворцаў у капіталістычных краінах.

Каб атрымаць такі ўраджай, улады маюць намер толькі падчас пасяўной з дапамогай 45,7 тысячы трактароў і іншай тэхнікі спаліць 193,5 тысячы тон дызпаліва, 26 тысяч тон бензіну і больш за 8 тысяч тон маторных алеяў і змазак. На пасевы будзе выліта 14 тысяч тон ядахімікатаў (пратручвальнікі насення, гербіцыды, фунгіцыды), а ў глебу ўнесена каля 1,344 мільёна тон мінеральных угнаенняў.

І на ўсё гэта патрэбныя грошы. Узяць іх няма адкуль: трэба разлічвацца па ранейшых пазыках, Масква грошай не дае, МВФ — тым больш. Прадаваць і «праядаць» прадпрыемствы не хочацца. Вымушаны круціцца. Залазіць у кішэні грамадзян таксама не вельмі пажадана. Таму трэба гандляваць з тымі, з кім можна гандляваць.

Як паведамляе іранская тэлекампанія «Press TV», Беларусь прымае ўдзел у выставе высокіх тэхналогій у Тэгеране. На ёй прадстаўлены найноўшыя распрацоўкі і тэхналогіі, інавацыйныя падыходы і методыкі ў такіх сферах, як біятэхналогіі, энергетыка і электроніка, нанатэхналогіі, новыя матэрыялы, машынабудаванне, суднабудаванне, інфармацыйныя тэхналогіі.

Што гэта — прарыў Беларускага парку высокіх тэхналогій? Альбо проста рэверанс у бок нашага сябра Махмуда Ахмадзінеджада?

Хутчэй, не пра тыя высокія тэхналогіі вядзецца гаворка. Пэўна, беларуская дэлегацыя (склад якой, дарэчы, не агучваецца — звярніце ўвагу!) павезла да сябра Махмуда што-небудзь убойна-разрыўное, альбо высокадакладнае-карэкціруючае да ўбойна-разрыўнога. Да таго ж Іран, здаецца, і не збіраецца зварочваць сваю ядзерную праграму.

Калі ўжо не атрымалася з «Самандам», трэба прадаць хоць штосьці. Таму што ў чэрвені гэтага года ў Іране выбары новага прэзідэнта. Сябра Махмуд адбыў свае два тэрміны і балатавацца больш не можа. І дзе гарантыя, што новы прэзідэнт таксама будзе сябрам?

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ



### СЯРГЕЙ МАСКЕВІЧ

Каб не даваць магчымасць удзельнічаць у конкурсе на атрыманне вышэйшай адукацыі абітурыентам, якія маюць нізкі ўзровень падрыхтоўкі, пастановай Міністэрства адукацыі Беларусі ад 20 лютага 2013 года №8 устаноўлена ніжняе значэнне тэставага бала, пачынаючы з якога адзнака ў 2013 годзе будзе прызнавацца здавальняючай.

Міністр адукацыі Сяргей Маскевіч паведаміў: для таго, каб мець магчымасць падаць дакументы ў ВНУ, абітурыенты павінны будуць набраць мінімальна: 10 балаў па прадметах «Беларуская мова» або «Руская мова»; 15 балаў — па прадметах «Матэматыка», «Фізіка», «Хімія», «Біялогія»; 20 балаў — па прадметах «Гісторыя Беларусі», «Сусветная гісторыя найноўшага часу», «Грамадазнаўства», «Геаграфія», «Замежныя мовы (англійская, нямецкая, французская, іспанская)».

Станоўчыя значэнні тэставых балаў вызначаліся з улікам праведзенага аналізу вынікаў ЦТ за апошнія два гады.

«Мяркуем, што каля 30% абітурыентаў не набяруць ніжняга значэння тэставага бала. Але яны змогуць працягнуць навучанне ў ПТВ і сярэдніх спецыяльных навучальных установах. Як паказвае міжнародная практыка, толькі каля 40% выпускнікоў школ могуць асвойваць праграмы вышэйшай адукацыі», — растлумачыў міністр адукацыі.

Для асобаў, якія паступаюць ва ўстановы сярэдняй спецыяльнай адукацыі, ніжняе значэнне тэставага бала па ўсіх вучэбных прадметах, пачынаючы з якога адзнака лічыцца здавальняючай, — 1 бал.

### «AKUTE»



Сайт Ultra-Music раздаў музычныя прэміі за 2012 год. Галоўныя ўзнагароды забраў гурт «Akute». Як піша «Еўрарадыё», «інтрыга круцілася вакол гуртоў «Akute» і «Серебряной Свадьбы». Менавіта яны апынуліся лідарамі галасавання 51 «акадэміка», якія дапамагалі парталу Ultra-Music падвесці музычныя вынікі 2012 года. Гэтыя каманды і забралі галоўныя ўзнагароды. «Серебряная Свадьба» напісала «Песню года» і «Альбом года», а «Akute» сталі «Гуртом года». Да гэтага магілёўскі гурт стаў гуртом–2012 па версіі «Еўрарадыё» на фестывалі «Даём рады» і атрымаў званне «Герояў года» ад «Тузіна Гітоў».

«Ясна, што заўжды будзе суб'ектыўнасць, і ясна, што ніколі не будзе цалкам згодных з вынікамі, — мяркуе рэдактар партала Tuzin.fm Сяргей Будкін, які атрымаў прэмію UMA за праект «Тузін. Немаўля». — Але мне здаецца, што гэта толькі на карысць: калі больш намінантаў, калі больш прэмій, то гэта да лепшага. Таму што, калі была адна «Рок-каранацыя», і ўсе вакол яе спрачаліся, то тут будуць спрэчкі вакол 4–6 прэмій, якія мы маем цяпер. А гэта толькі на пазітыў для беларускай музыкі і беларускіх музыкаў».

На думку каардынатара сайта Experty.by Змітра Бескаравайнага, прэмія Ultra-Music Awards — гэта частка станоўчага працэсу развіцця беларускай музыкі: «У нас вялікая ўплывовая прэмія кшталту «Грэмі» немагчымая, таму што наша незалежная музычная сцэна яшчэ будуецца. Яшчэ ў пэўнай ступені беларуская музыка лічыцца ў масах крыху маргінальнай. Паступова яна пазбаўляецца гэтага статусу праз пэўных лідараў — праз «Серебряную Свадьбу», праз «Троіцу», праз «Ляпісаў», — але гэты працэс займае шмат часу, каб менавіта сваю музыку людзі лічылі асноўнай ці хаця б роўнай адносна да заходняй і ўсходняй».

### МІКІТА ЛІХАВІД



Былому палітвязню Мікіту Ліхавіду паведамілі ў міліцыі, што ён павінен дасядзець 10-сутачны арышт за ўдзел у падзеях у Мінску 19 снежня 2010 года. Але ў 2011 годзе Мікіта Ліхавід быў асуджаны да трох з паловай гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму за ўдзел у несанкцыянаваным мітынгу пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Яго затрымалі 19 снежня і на наступны дзень асудзілі на 10 сутак адміністрацыйнага арышту за ўдзел у несанкцыянаваным мерапрыемстве. Аднак 25 снежня Ліхавіда перавялі ў следчы ізалятар па крымінальнай справе, а 29 сакавіка 2011 года — прызналі вінаватым ва ўдзеле ў масавых беспарадках і прысудзілі да трох з паловай гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму.

У верасні 2011-га Ліхавід быў вызвалены на падставе ўказу аб памілаванні ў ліку 11 фігурантаў крымінальнай справы аб масавых беспарадках, піша БелаПАН.

Юрыст Павел Сапелка мяркуе, што юрыдычна ўлады могуць абгрунтаваць неабходнасць адбыць пакаранне за Плошчу, але самае істотнае ў гэтай гісторыі тое, што сама адказнасць за ўдзел у несанкцыянаваных акцыях у тым выглядзе, у якім яна існуе ў Беларусі, — незаконная, яна не адпавядае ні Канстытуцыі, ні міжнародным стандартам.

▸ ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ

# «ГАВАРЫ ПРАЎДУ!» СПЫНЯЕ ДЫСКУСІІ

Сяргей ПУЛЬША

**Грамадзянская кампанія «Гавары праўду!» спыняе дыскусіі па «адзіным кандыдаце» і мае намер захапіць мясцовыя Саветы. А лідар кампаніі Уладзімір Някляеў папярэдзіў журналістаў, што больш не будзе каментаваць выказванні іншых апазіцыйных лідараў і адказваць на інтэрнэтныя правакацыі.**




Уладзімір Някляеў і Андрэй Дзмітрыеў

Найперш, Уладзімір Някляеў заявіў, што прэс-канферэнцыя носіць святочнае адценне — 25 лютага «Гавары праўду!» споўнілася тры гады. «Мы не задзіраем нос, і не кажам, што мы змянілі лёс краіны, хаця нашай мэтай пры стварэнні было менавіта гэта. Але ні я, ні, пэўна, вы, не ўяўляеце краіну зараз без «Гавары праўду!», — сказаў Някляеў. — …Мы перабольшылі свае сілы, недзе мы не так ацанілі сітуацыю. Мы зрабілі памылкі, і мы іх прызнаем. Я ўжо адразу пасля суда за Плошчу–2010 казаў, што я вінаваты таксама — у тым, што я заклікаў людзей на Плошчу, а сам да яе не дайшоў. — … Зараз яшчэ працягваецца абмеркаванне, хто ў той сітуацыі быў героем, а хто здраднікам. Я вам так скажу: у паразы няма герояў. Мы ўсе вінаватыя ў тым, што не здолелі на Плошчы дасягнуць той мэты, якой мы дамагаліся. І ўсе мы, хто ўдзельнічаў у тых выбарах, у нейкі час, калі дазволяць абставіны, збяромся разам і вырашым усе пытанні. Да таго часу спрэчкі не маюць сэнсу», — заявіў Някляеў.

Амаль з той жа прычыны «Гавары праўду!» спыняе свой удзел у абмеркаванні адзінага кандыдата ў прэзідэнты ад апазіцыі на выбарах 2015 года. Па меркаванні Някляева, гэтае пытанне зараз, па-першае, раз'ядноўвае апазіцыю, а па-другое, з'яўляецца «невырашальным».

Ёсць і яшчэ адна прычына, па якой «Гавары праўду!» унікае гэтай тэмы. «Мы, не толькі я, але і ўсе дэмакратычныя кандыдаты, будавалі сваю перадвыбарную кампанію толькі на крытыцы прэзідэнта. Маўляў, Лукашэнка такі, Лукашэнка сякі. Але калі я пасля дыскусій на тэлебачанні прыязджаў на сустрэчы з выбаршчыкамі, я разумеў, што людзей хвалюе зусім не тое, які Лукашэнка. Людзі пыталіся, што мы будзем рабіць у выпадку перамогі, якую мы будзем праводзіць эканамічную і сацыяльную палітыку. А пра Лукашэнку яны і так усё ведаюць», — падкрэсліў Някляеў.

Таму зараз для «Гавары праўду!» стаіць пытанне не «хто замест Лукашэнкі», а «што замест Лукашэнкі». Па словах Някляева, безумоўна, у дэмакратычных сіл павінен быць адзіны лідар, але больш важная не ягоная асоба, а ягоная праграма.

Каардынатар «Гавары праўду!» Андрэй Дзмітрыеў заявіў, што цяпер галоўным пытаннем для «Гавары праўду!» з'яўляецца ўдзел у мясцовых выбарах. Для гэтага ўжо прыдуманы лозунг: «Захапіць мясцовыя Саветы». Кампанія «Гавары праўду!» мае намер выставіць на мясцовых выбарах не менш за тысячу кандыдатаў у дэпутаты. За тры месяцы актывісты «ГП» павінны сабраць праблемы, якія хвалююць людзей «на месцах», і на падставе аналізу гэтых праблем пабудаваць пяць-шэсць пунктаў пазітыўнай перадвыбарнай праграмы.

З гэтага дня, заявіў Дзмітрыеў, офісы кампаніі «Грамадзянскай дамовы» ў рэгіёнах ператвараюцца яшчэ і ў выбарчыя штабы мясцовых кандыдатаў у дэпутаты. Пачынаецца праца па аб'яднанні ўсіх, для каго выбары — спосаб вырашэння мясцовых праблем. Таксама будзе праводзіцца аналіз дзейнасці мясцовых Саветаў, каб паказаць людзям усю іх недасканаласць. З гэтай жа мэтай кампанія пачала і маніторынг мясцовых бюджэтаў. «Мы павінны пераканаць людзей, што іх прадстаўнік у органах мясцовай улады павінен і можа адстойваць іх інтарэсы. Каб грошы з мясцовых бюджэтаў ішлі на паліклінікі і бальніцы, а не на лядовыя палацы», — заявіў Дзмітрыеў.

Варта зазначыць, што ў апазіцыі ўжо былі падобныя пазітыўныя праграмы. Іх распрацоўвала ў свой час Аб'яднаная грамадзянская партыя, былі «Пяць крокаў да лепшага жыцця» кааліцыі «Пяцёрка плюс» і гэтак далей. Ніводная з іх не прынесла пазітыўнага эфекту. Дзмітрыеў лічыць, што ў «Гавары праўду!» пазітыўў усё ж атрымаецца. Таксама Дзмітрыеў мяркуе, што ўсе пазітыўныя праграмы апазіцыі апярэдзілі свой час.

Ну а тое, што «Гавары праўду!» разлічвае на супрацоўніцтва ў сваёй дактрыне з іншымі апазіцыйнымі партыямі — гэта ўжо казаць лішне. Як заўсёды, лідары кампаніі заяўляюць аб гатоўнасці супрацоўнічаць з любой структурай, якая падзяляе іх погляды на мясцовыя выбары. Найперш, канешне, гэта сябры па маленькай кааліцыі — Партыя БНФ і Рух «За Свабоду».

▸ 25 САКАВІКА

# ДЗЕНЬ ВОЛІ: АМАЛЬ ПА-ДЗЯРЖАЎНАМУ

Сяргей ПУЛЬША

**Беларуская дэмакратычная грамадскасць мае намер адсвяткаваць сёлетні Дзень Волі амаль на дзяржаўным узроўні. Прынамсі, у праграму свята актывісты дэмакратычнага руху ўключылі ўсё, што знаходзіцца ў атрыбутыцы святаў дзяржаўных: канферэнцыі, ускладанне кветак, шэсце, мітынг, і нават святочны канцэрт.**



Створаны вельмі прадстаўнічы аргкамітэт, у які ўвайшлі амаль усе вядучыя палітычныя партыі і арганізацыі: АГП, Партыя БНФ, Рух «За Свабоду», кампанія «Гавары праўду!», аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларускі рух», Рада інтэлігенцыі і шмат хто іншы. Адпаведна, святкаванне 95-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі павінна прайсці з вялікім размахам.

Традыцыйныя шэсце і мітынг пройдуць у Мінску 24 сакавіка. Але папярэднічаць ім будуць тры навуковыя канферэнцыі. Як сказаў адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні БХД Дзяніс Садоўскі, круглыя сталы пройдуць у рэдакцыях незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Паводле Садоўскага, на іх будзе разгледжана з сучаснага пункту погляду назва БНР: што такое «беларуская», што такое «народная» і што такое «рэспубліка». «Як тыя каштоўнасці, якія былі тады, мы можам трансфармаваць на сённяшні час. Якія ідэалы БНР мы можам скарыстаць зараз, каб дамагчыся сапраўднай незалежнасці Беларусі», — адзначыў Садоўскі. Па ягоных словах, вынікі трох канферэнцый будуць падведзеныя на заключнай, чацвёртай, якая адбудзецца ў дзень стварэння БНР.

Таксама 24 сакавіка плануецца вялікі сход і канцэрт, за які адказвае Рух «За Свабоду». Юрась Губарэвіч паведаміў, што ўжо замоўлена зала ДК МТЗ. «Мы плануем, што ў першай частцы прысутныя заслухаюць меркаванні наконт БНР гісторыкаў, выбітных дзеячаў беларускай культуры, палітыкаў. Мяркуем таксама, што мы здолеем наладзіць трансляцыю відэазваротаў такіх асобаў, напрыклад, як старшыня Рады БНР Івонка Сурвіла. У другой частцы мы запланавалі канцэрт беларускіх гуртоў, якія патрапілі ў «чорныя спісы» забароненых выканаўцаў, у прыватнасці, Лявона Вольскага», — адзначыў Губарэвіч.

Лідар грамадзянскай кампаніі «Гавары праўду!» Уладзімір Някляеў адзначыў, што важна, каб гэтае святкаванне «выйшла за межы Мінска». «Не толькі «Гавары праўду!», а ўсе структуры аргкамітэту просяць сваіх актывістаў патрапацаваць на месцах. Тым больш, што ў гэтым годзе адзначаецца яшчэ і 150 год з пачатку паўстання Кастуся Каліноўскага. Можна прыйсці да могілак паўстанцаў, іншага памятнага месца, ускласці кветкі, хай і пад пагрозай адміністрацыйнага арышту, але зрабіць гэта можна. Каб усё ж людзі адзначылі, адсвяткавалі гэты дзень», — сказаў Някляеў.

Дарэчы, самі сябры аргкамітэту так і збіраюцца зрабіць, без усялякага патрабавання дазволу. Напярэдадні шэсця і мітынгу 24 сакавіка яны ўскладуць кветкі ў Мінску да помнікаў выбітным паэтам Беларусі: Янку Купалу, Якубу Коласу.

Зразумела, такое маштабнае святкаванне не можа адбыцца без народнай падтрымкі. Арганізатары не збіраюцца нікога прымушаць прыходзіць на мітынг, але адзначаюць, што людзі самі павінны праявіць актыўнасць. У прыватнасці, Уладзімір Някляеў прапануе не сядзець на канапе і не крытыкаваць аргкамітэт у інтэрнэце, а проста далучыцца да яго. «Не пішыце ў інтэрнэце, што, маўляў, зноў пайшлі на Бангалор, зноў усё дрэнна, зноў усё не атрымаецца. Лепш самі станьце ўдзельнікамі аргкамітэта, прапануйце нам нешта лепшае, прыходзьце самі і прыводзьце сяброў. Тады гэта будзе свята», — кажа Някляеў.

Увогуле, Дзень Волі ён параўнаў з вяселлем: «Калі цябе запрасілі на вяселле сябра, і ты не пайшоў — няма для цябе вяселля і няма свята. А калі з'явіўся — ёсць і вяселле, і свята». Таму, па словах Някляева, дэмакратычнай грамадскасці трэба вылезці з форумаў і абмеркаванняў, і не абмяркоўваць там, што «ўсё дрэнна». «Там і без нас хапае гэбэшных троляў, якія будуць крычаць «дрэнна» і заставацца на канапе», — адзначыў Някляеў.

Ачомацца ад зімняй спячкі, па меркаванні яшчэ аднаго ўдзельніка аргкамітэту, палітыка, старшыні аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларускі рух» Віктара Івашкевіча, павінен сам народ. «У нас не будзе масавай улётквай кампаніі — прадугледжаны для інфармавання насельніцтва толькі не вельмі вялікі наклад налепак. Але некалькі сот тысяч людзей у тыдзень наведваюць апазіцыйныя сайты. І пытанне толькі ў тым, што чалавек персанальна зробіць для таго, каб свята адбылося. Усе ўлёткі, сімволіка Дня Волі, будуць размешчаныя на сайтах дэмакратычнай скіраванасці. З сайта любы можа спампаваць узор улёткі і раскідаць яе па паштовых скрынях суседзяў. Не чакайце, што арганізатары вам дадуць у рукі бел-чырвона-белы сцяг — пашыйце яго самі. Хочацца несці транспарант? Зрабіце яго самастойна! І калі Дзень Волі не адбудзецца, гэта ваша асабістая параза — гэта ўсё таму, што вы вялі сябе пасіўна, пісалі каменты ў інтэрнэце, замест таго, каб выйсці на вуліцу», — кажа Івашкевіч.

Але, калі карыстацца алегорыяй таго ж Някляева, некаторыя лічаць, што вяселле без бойкі — гэта не вяселле. Таму ўлада, зазвычай, імкнецца сапсаваць свята, забараняючы мерапрыемствы альбо канфіскуючы гукаўзмацняльную апаратуру, альбо затрымліваючы прэвентыўна актывістаў дэмакратычных рухаў… Спосабаў сапсаваць свята ў яе хапае.

Тым не менш, арганізатары святкавання Дня Волі не хаваюць таго, што «альтэрнатыўных» і «падпольных» варыянтаў такога свята ў іх быць не можа. Як адзначыў кіраўнік Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, у выпадку забароны мітынгу і шэсця аргкамітэт зранку ўскладзе кветкі да помнікаў паэтам. «Калі ўлады забароняць шэсце і мітынг, мы будзем заклікаць людзей зрабіць тое ж самае. Іншых варыянтаў у нас няма», — адзначыў Янукевіч.

Адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні БХД Дзяніс Садоўскі зважае на вельмі прадстаўнічы аргкамітэт і спадзяецца, што такім паважаным людзям улада не зможа не даць дазвол. «Адмовіць арганізатарам адсвяткаваць Дзень Волі — гэта значыць справакаваць несанкцыянаваныя дзеянні актывістаў гэтых арганізацый. І вось тады можа быць «бойка на вяселлі». І ўлада на гэта наўрад ці пойдзе», — лічыць Садоўскі. Таму, па ягоны меркаванні, лепш дазволіць свята, тым больш, што нічога незвычайнага арганізатары не патрабуюць.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# «ЖЫЦЦЁ ПАСЛЯ КРАТАЎ»

Генадзь КЕСНЕР



Аляксандр Тамковіч на прэзентацыі сваёй 17-й кнігі

**«Жыццё пасля кратаў» — сямнаццатая кніга вядомага беларускага журналіста і публіцыста Аляксандра Тамковіча, прэзентацыя якой адбылася 26 лютага ў перапоўненай сядзібе Партыі БНФ. Гэтая кніга пра тых, хто прайшоў праз вязніцы пасля Плошчы–2010, пра тое, як склаліся іх лёсы.**

«Хоць прайшло ўжо два гады пасля тых сумных падзеяў, якія ўвайшлі ў найноўшую гісторыю Беларусі як «Плошча–2010», гэтая гісторыя далёка не скончылася, — адзначыла на самым пачатку вядоўца прэзентацыі праваабаронца Алена Лапцёнак. — За кратамі дагэтуль застаюцца палітвязні, а тыя, хто выйшаў, працягваюць сваё змаганне. З імі паразмаўляў Аляксандр, зрабіў інтэрв'ю і выдаў такую цудоўную кніжку». Да слова, гэта за некалькі апошніх гадоў ужо сямнаццатае выданне аўтарства Аляксандра Тамковіча.

Пасля кароткай прамовы прысутныя прагледзелі слайды са змешчанымі ў кнізе фотаздымкамі. Дарэчы, у выданні ёсць 27 артыкулаў і 217 фотаздымкаў — зробленых журналістамі і з сямейных архіваў тых, пра каго распавядаецца ў кнізе.

Як сказала пасля прагляду сябра Рады Праваабарончага цэнтру «Вясна» Таццяна Равяка — рэдактар гэтага выдання, — такія кнігі сведчаць пра грамадскія актывістаў і пра беларусаў больш, чым іх самыя палымяныя прамовы.

«Аляксандр Тамковіч паказаў нам гэтых людзей у іх звычайных жыццёвых абставінах, а не на барыкадах. Сёння сюды прыйшло шмат людзей, а гэта знак таго, што тэма 2010 года не закрытая. Бо застаюцца палітычныя зняволеныя. З некаторымі з герояў аўтар не змог пагутарыць па вядомых нам прычынах, — адзначыла праваабаронца. — Чытаючы пра Дашкевіча, Лобава, Статкевіча, мы чуем галасы іх родных. Павел Севярынец сам напісаў артыкул. Хоць кніга і называецца «Жыццё пасля кратаў», не ўсе яшчэ на волі, а для некаторых гэта жыццё паміж кратамі. Усе яны пасля таго, як выйшлі на волю, шчыра хочуць, каб за кратамі не засталося ніводнага палітвязня».

Таццяна выказала шкадаванне, што ў гэтай кнізе няма і ўжо ніколі не будзе артыкула пра маладога палітвязня, удзельніка Плошчы Арцёма Грыбкова, які трагічна сышоў з жыцця ў мінулым годзе.

На імпрэзе выступілі бацька Ірыны Халіп, якая з прычыны грыпу не змагла прысутнічаць на прэзентацыі, драматург Уладзімір Халіп, жонка экс-кандыдата ў прэзідэнты, цяперашняга вязня гарадзенскай крытай турмы Міколы Статкевіча Марына Адамовіч, маці палізняволенага маладафронтаўца Эдуарда Лобава Марына Лобава, былыя вязні «амерыканкі» Васіль Парфянкоў, Сяргей Марцалеў, Сяргей Казакоў, Алег Корбан, Алесь Арастовіч, Андрэй Дзмітрыеў, Анатоль Лябедзька, Сяргей Вазняк ды іншыя.

Уладзімір Някляеў жартаўліва распавёў: «Год таму ў мяне браў інтэрв'ю адзін французскі журналіст. Ён задаў мне пытанне, на якое я не знайшоў, што адказаць. Ён спытаўся: «Што ў вашым палітычным жыцці можна назваць сістэмнай з'явай?» Цяпер я ведаю, што такой з'явай можна назваць выхад чарговай кнігі Аляксандра Тамковіча. У гэтай кнізе ажыццявіўся прынцып сямейнага альбома. Гэта практычна бяспройгрышны варыянт, дзякуючы якому вельмі добра раскрываюцца людзі. Тамковічу чарговым разам удалося цікава расказаць пра выбраных ім людзей», — канстатаваў славуты літаратар.

У сваю чаргу Сяргей Вазняк, артыкул пра якога ў гэтай кнізе называецца «Няправільны камуніст», паведаміў, што ў яго дома захоўваецца поўны збор твораў Леніна з 55 тамоў. А таксама ўсе шаснаццаць раней выдадзеных кніг Тамковіча. Атрымліваючы з рук аўтара сямнаццатую, Вазняк жартам адзначыў, што Аляксандру яшчэ варта багата папрацаваць, каб дагнаць «правадыра».

Але, бадай, самым эмацыйным і ўзрушлівым быў выступ яшчэ аднаго былога палітвязня Аляксандра Фядуты. «Нашы жонкі больш разумныя, чымся мы, і мая, на жаль, не выключэнне. Яна зусім не публічная асоба, і калі падчас першага інтрэрв'ю яна папрасіла журналістаў, каб яны не рабілі з палітзняволеных герояў, на яе паглядзелі як на вар'ятку. Але я цалкам з ёю згодны. Гэтая кніга пра жывых людзей, а не пра помнікі. Тамковіч напісаў пра людзей, якім баліць, якія рабілі і робяць памылкі, і менавіта таму гэтыя гісторыі будуць жыць доўга. Я адкрываю гэтую кнігу і чую галасы жывых людзей, — прызнаўся выступоўца. — Тыя, каго называюць генераламі, палкоўнікамі Плошчы, гэта людзі, перад якімі маячылі ці то слава, ці то грошы, ці то нават эміграцыя. Мы ўсе, ідучы на Плошчу, ведалі, на што ідзём і за што будзем сядзець. А тыя маладыя хлопцы, якіх вязалі і саджалі, ішлі за нашу і вашу свабоду. Вось яны і ёсць сапраўдныя героі».

А самы першы палітвязень за Плошчу Васіль Парфянкоў заклікаў не забывацца і на тых, хто прайшоў вязніцы, і на тых, хто яшчэ знаходзіцца за кратамі, а таксама на іх родных.

РАЗВАЖАННІ

# БЕЛАРУСКІЯ ДЗЯРЖАЎНЫЯ ФОБІІ

Сяргей ПУЛЬША

**Многія аналітыкі, палітыкі і палітолагі сцвярджаюць, што беларуская ўлада трымаецца на страху. Страх сесці ў турму, страх страціць працу, страх трапіць пад пераслед і «падставіць» родных і сям'ю з'яўляюцца абмежавальнымі фактарамі не толькі грамадзянскай актыўнасці, але і актыўнасці ўвогуле. Таму нашы чыноўнікі так бязвольна выслухоўваюць абразы з боку кіраўніка дзяржавы, таму некаторыя каюцца ў тым, што было і чаго не было.**

Але ж гэты страх грамадства «ад малога да вялікага» не можа не адбівацца і на існаванні самой дзяржавы. Улада таксама прасякнутая страхам. Страх прадукуецца ў краіне, таму што ўлада сама баіцца. І гэтыя дзяржаўныя фобіі часам нават невытлумачальныя.

Здаецца, як у любога чалавека, дзяржаўны страх развіваецца з маленства. Улада тут не выключэнне. Таму ў яе ёсць прыкладцы, і ёсць падлеткавыя фобіі, працягу якіх яна імкнецца не дапусціць у будучыні.

У дзяржавы вельмі вялікі страх перад рабочымі пратэстамі. Улада выдатна памятае, у выніку чаго абрынулася папярэдняя ўлада. Толькі калі на вуліцы Мінска выйшлі тысячы працоўных, настаў калі не канец, то пачатак канца як СССР, так і БССР. Прычым гэты канец падкраўся незаўважна: усе называлі Беларусь «Вандэяй перабудовы», а тут бац — і рэспубліка абвяшчае незалежнасць, а ў парламент уносяць бел-чырвона-белы сцяг. Яго б, пэўна, і не ўнеслі, каб у гэты момант перад будынкам парламента не стаялі тысячы грамадзян.

Гэтую фобію ўлада адчувае нутром. Таму і імкнецца не звесці да мінімуму «чарку і шкварку», і не хоча дапусціць да працоўных незалежных прафсаюзных лідараў. Іншы разам здараюцца непрыемнасці. За мінулы год улада страціла свой прафсаюз на заводзе «Граніт». Не дапамаглі ні ціск, ні звальненні. Але і зараз сябрам незалежнага прафсаюза пагражаюць звальненнем: пад такой пагрозай апынуўся актывіст Леанід Дубанос.

З гэтай фобіяй улада змагаецца дастаткова паспяхова. Трэба проста «адсекчы» шляхам звальнення актывістаў ад асноўнай масы працоўных — і ўсё будзе ціп-топ. Не заўсёды дапамагае, але дзейнічае з часоў падаўлення страйку мінскіх метрапалітэнаўцаў у 1995 годзе.

З тых жа часоў і фобія масавых акцый пратэсту. Гэтая фобія нават падмацаваная масавымі выступамі ў 90-х гадах. Нездарма напярэдадні кожнай акцыі, кожнай больш-менш значнай падзеі выхопліваюць актывістаў па кватэрах і шыюць ім хуліганку. Кшталту, лаяўся матам жонцы на вуха ў ложку.

Заraз улада раптам зацікавілася Мікітай Ліхавідам. Ліхавід быў вызвалены ў верасні 2011 года, а зараз да яго прыйшоў участковы і заявіў, што Мікіта недасядзеў 10 сутак у Цэнтры ізаляцыі правапарушальнікаў.



Не дзіва, што ўчастковы прыйшоў зараз. Напярэдадні мітынг і шэсце ў Дзень Волі. Як адзначыў Ліхавід, ва ўчастковага — аж 11 такіх позваў, і, пэўна, усе гэтыя людзі паедуць у Цэнтр ізаляцыі правапарушальнікаў непасрэдна перад масавай акцыяй. Бо фобія масавых акцый пратэсту — вельмі важная фобія.

Яшчэ адна фобія, хутчэй, неасэнсаваная, але цягнецца з тых жа часоў перабудовы. Гэта страх усяго беларускага.

У дзяцінстве беларускай дзяржаўнасці, у 1990-х, уладу вельмі напалохалі нацдэмы. На іх глебе ўзнік Беларускі Народны Фронт, на іх глебе страціла манаполію на «прамыўку мазгоў» КПСС, урэшце, нацдэмы ледзь не павярнулі краіну незваротна на Захад. І таму ўсё нацдэмаўскае павінна вынішчацца.

Здавалася б, якую пагрозу для ўлады ўяўляе зараз Кастусь Каліноўскі? Іншыя краіны, наадварот, святкавалі б (і святкуюць жа!) 150-годдзе пачатку ягонага паўстання як доказ велізарнай культурнай, баявой і гістарычнай спадчыны, якая не згубілася з набыццём незалежнасці краіны, а сягае ў вякі. У нас — наадварот. Улада шмат увагі зараз удзяляе таму, каб абвесціць Каліноўскага палякам і ўвогуле «чужым элементам» у нашым гістарычным полі.

З той жа оперы прысуд скульптару Геніку Лойку, які ў дзень роднай мовы не толькі наважыўся правесці адзіночную акцыю ў падтрымку мовы, але і меў нахабства запатрабаваць весці над ім судовы працэс па-беларуску. Суддзя Людміла Лапо дэманстратыўна ў гэтым адмовіла і дала пяць сутак арышту.

Ва ўлады ёсць яшчэ адзін страх, які ўжо не назавеш падлеткавым: страх перад Захадам. Дакладней, перад «заходнім прыкладам». Гэта боязь перад заходнім ладам жыцця, заходняй мадэллю дэмакратыі, заходняй свабодай слова. Бо, калі дапусціць сюды хоць часцінку заходняй свабоды, невядома, што адбудзецца пасля. Таму ўлады ўсяляк імкнуцца «зачыніць межы», супрацьўляюцца падпісанню дамоваў аб малым памежным руху, не пускаюць у краіну спецдакладчыка ААН па правах чалавека Міклаша Харашці, і ўвогуле ўсяляк дэманізуюць Захад. Бо дай толькі крыху свабоды, крыху «адкруці гайкі» — і на табе, «каляровая рэвалюцыя».

Улада вельмі добра прачула гэта падчас прэзідэнцкіх выбараў 2010 года. Папярэдняя лібералізацыя дала падставы для «разгулу дэмакратыі» падчас агітацыйнай кампаніі. І, як вынік, улада даведалася, што зусім не папулярная ў людзей. Таму зараз такое імкненне — загнаць каго ў падполле, каго ў эміграцыю.

З большасцю гэтых фобій улада змагаецца традыцыйным «прэвентыўным» спосабам. Актывістаў працоўнага руху «адсякаюць» ад калектываў. Напярэдадні масавых акцый праводзяцца «прафілактычныя гутаркі» і прэвентыўныя затрыманні. Тыя, хто імкнецца сунуцца сюды з Захаду альбо з Усходу з прыкладамі дэмакратыі, становяцца персонамі «нон-грата». Тыя, хто прэтэндуе на ўладу, могуць калі-небудзь дайсці да яе — праз турму альбо эміграцыю.

Адзіная хіба: усё гэта ў апошні час не спрацоўвае. «Сутачная адсідка за палітыку» раней была жахлівай справай, потым — повадам для гонару, а зараз звычайным, ледзь не пабытавым элементам жыцця.

Выехаць за мяжу можна праз Расію. Досвед кандыдата ў прэзідэнты 2006 года Аляксандра Казуліна нікога нічому не навучыў — наступным разам з'явілася шмат ягоных паслядоўнікаў. Адзінае, што вынеслі апазіцыянеры са справы Казуліна і іншых кандыдатаў за кратамі: калі ўжо ідзеш, то ідзі да канца, усё роўна вынік адзін, а так хоць будзеш ведаць, што зрабіў усё, што можна. Ну а беларускасць — яна сама праклюнецца, калі трэба будзе: яе царызм не задушыў і сённяшняя ўлада не задушыць.

Трэба ўладзе вынайсці нешта новае ў барацьбе за сваё існаванне. А новага — няма. Бо розум скаваны страхам. І гэты страх не схаваеш за спіны АМАПу. Застаецца дзейнічаць звычайнымі метадамі, якія вось-вось зламаюцца. Бо занадта вялікі гэта цяжар — страх на ўзроўні дзяржавы.

ПАЛІТЫКА І БІЗНЭС

# ГРОШЫ НА РЭВАЛЮЦЫЮ НЕ ДАВАЦЬ!

Вольга ХВОІН

**Дапамога «пятай калоне» пагражае бізнэсоўцам сур'ёзнымі непрыемнасцямі — такія навіны эканомікі ад кіраўніка дзяржавы на гэтым тыдні. Прадпрымальнікі мяркуюць, што пасыл адрасаваны не столькі шырокаму колу дробных бізнэсоўцаў, колькі набліжаным да вышэйшых асобаў дзяржавы алігархам.**



Аляксандр Лукашэнка правёў нараду аб дзейнасці Савета па развіцці прадпрымальніцтва ў Беларусі. Праўда, асноўны пасыл гэтага мерапрыемства апынуўся ў палітычным полі. Кіраўнік дзяржавы папярэджваў бізнэсоўцаў: за падтрымку палітычных апанентаў — атрымаюць напоўніцу.

«Хачу, каб вы дакладна ўсведамлялі: любыя спробы бізнэсмэнаў уздзейнічаць на органы дзяржаўнай улады з мэтай стварыць «дах» для свайго добрага жыцця будуць абарочвацца крахам для падобных ініцыятыў і структур», — падкрэсліў Лукашэнка. Ён звярнуў увагу на тое, што для працы прадпрымальнікаў нормай павінна стаць не лабіраванне інтарэсаў асобных фірмаў і кампаній, а маштабная, рознабаковая канструктыўная дзейнасць, не выбіванне льгот і датацый з бюджэту, а павелічэнне ўнёску прыватнага сектара ў вытворчасць валавога ўнутранага прадукту, у павышэнне эфектыўнасці беларускай эканомікі.

«Хачу падкрэсліць: калі хтосьці з бізнэсмэнаў будзе фінансаваць «пятую калону» ці нейкім іншым спосабам аказваць негатыўны ўплыў на грамадства, то я буду лічыць, што яны ўключыліся ў палітычную барацьбу, у барацьбу супраць дзяржавы. А там — свае законы. Потым хай не крыўдзяцца падобныя бізнэсмэны», — заявіў Аляксандр Лукашэнка.

Заўважце, Лукашэнка адкрыта гаворыць пра тое, што палітычная барацьба, якая ёсць нормаю ў цывілізаваным грамадстве і неад'емным інструментам пераемнасці ўлады, у Беларусі становіцца фактычна злачынствам вышэйшага кшталту.

І бізнэсоўцам адводзіцца роля не паўнапраўных удзельнікаў жыцця дзяржавы, а спажыўцоў, якія маюць са сваёй працы «чарку-шкварку» ды мусяць памятаць, каму яны абавязаны за гэта — плаціць удзелам у сацыяльных праектах. «Тады людзі будуць вас паважаць. І не прыйдзецца разважаць пра негатыўны імідж бізнэсмэнаў», — мяркуе кіраўнік дзяржавы. «Добраахвотны» ўдзел у сацыяльных праграмах дзяржавы для мясцовых бізнэсоўцаў — не пустыя словы. Перад маштабнымі падзеямі года накшталт «Дажынак» бізнэсоўцы і дзяржпрадпрыемствы традыцыйна пералічваюць грошы ў мясцовыя бюджэты, вядома, што беларускія «кашалькі рэжыму» рэгулярна ўдзельнічаюць, напрыклад, у будаўніцтве спартыўных аб'ектаў.

«Вы не інваліды і нават не пенсіянеры. Вы прыйшлі для таго, каб у канкурэнтнай барацьбе заваяваць сваё месца пад сонцам, працаваць на сябе, атрымліваць прыстойны прыбытак, плаціць падаткі, каб дзяржава магла існаваць і дапамагаць тым, хто сёння не можа зарабіць столькі, колькі вы. Ніхто не кажа, што ў вас трэба забраць апошняе, — сказаў Лукашэнка. — Таму давайце будзем вялікадушныя. Гэта не значыць, што мы павінны незаслужана камусьці раздаваць грошы, яшчэ нешта. Кожны павінен працаваць. Але калі бачыце, што можна дапамагчы дзіцячаму дому, спорту, ахове здароўя, адукацыі — тое, што стварае базу для жыцця чалавека, так давайце дапаможам разам». «Вы мяне не папракніце, што я каго-небудзь з бізнэсмэнаў у краіне гвалтоўна прымушаў дапамагаць дзяржаве. Можаце — дапамажыце, не можаце — Бог з вамі. Адпаведнае будзе стаўленне з боку дзяржавы і мяне да вас», — дадаў Аляксандр Лукашэнка.

Прадпрымальнік з Рэчыцы Алег Шабетнік многа гадоў удзельнічае ў палітычным апазіцыйным руху. Але, паводле яго слоў, фінансаваннем «пятай калоны» ці дзяржавы ніколі не займаўся. Не практыкуюць гэтага і іншыя дробныя бізнэсоўцы, бо «мы не столькі зарабляем, каб раздаваць грошы. Хоць бы на сям'ю і справу было».

«Увогуле, гэта прыватная справа кожнага чалавека, каму ён хоча і можа дапамагаць. Апазіцыйныя партыі мусяць фінансавацца з дзяржаўнага бюджэту, як тое робіцца ў іншых краінах. У нас жа афіцыйна зарэгістраваныя апазіцыйныя партыі ад дзяржавы нічога не маюць, а сродкі на сваю дзейнасць шукаць мусяць, — гаворыць прадпрымальнік Алег Шабетнік. Ён мяркуе, што папярэджанні Лукашэнкі тычыліся не шараговых бізнэсоўцаў. — Многія набліжаныя Лукашэнкі, магчыма, фінансуюць нейкія арганізацыі, каб у выпадку чаго скарыстацца пладамі такой падтрымкі. Думаю, усё гэта было сказана для буйных бізнэсоўцаў, алігархаў, якія могуць ствараць сабе «дахі», асяродак, які ў выпадку чаго зможа падтрымаць і паспрыяць вырашэнню нейкіх пытанняў».

Прадпрымальнік з Мінска Аляксандр Макаеў таксама актыўна ўдзельнічаў у апазіцыйным палітычным, грамадскім руху. Паводле яго назірання, Лукашэнка дарэмна хвалюецца — пагрозы яму з боку бізнэсоўцаў няма.

«Дробных і сярэдніх бізнэсоўцаў (я не гавару пра ІПэшнікаў) у нас цяпер зарэгістравана каля ста тысяч, і іх дзеянні добра адсочваюцца. Апроч падаткаў, гэтыя людзі спраўна адлічваюць са сваіх кішэняў дзяржслужбоўцам за вырашэнне нейкіх пытанняў. Прадпрымальнікі, якія захочуць дапамагаць палітычным сілам, памятаюць, што бізнэс любіць спакой і цішыню, а таксама ведаюць, што магчымасці абараніць сваю справу ў іх амаль няма. Яскравы таму прыклад: кандыдат у прэзідэнты, прадпрымальнік Дзмітрый Ус — ён фінансаваў сваю выбарчую кампанію, дапамагаў Міколу Статкевічу. Ведаем, чым гэта скончылася. Вось стаўленне дзяржавы да людзей з бізнэсу, якія ідуць у палітыку. Хай Лукашэнка не турбуецца — гэтая сфера зачышчаная вельмі добра, ніхто не захоча так рызыкаваць. Хіба што ўлада прагназуе народныя пратэсты і прэвентыўна запалохвае бізнэсоўцаў, каб у момант «Х» не пачалі падтрымліваць палітычных апанентаў».

Варта згадаць яшчэ адзін факт з найноўшай гісторыі Беларусі, звязаны з падтрымкай апанентаў рэжыму: жыцці бізнэсоўца Анатоля Красоўскага і маладога апанента Лукашэнкі Віктара Ганчара завяршыліся пазнакай «зніклі без вестак».

Цікава, што Лукашэнка звярнуў увагу на «засланага казачка» ў бізнэс-структуры, ці «блізкага да сябе чалавека». «Кіраўніком савета прызначаны Пётр Пятровіч Пракаповіч. У яго прамая сувязь з кіраўніком дзяржавы. Так што прашу быць больш дзейснымі, каб краіна атрымлівала рэальную карысць ад вашай работы», — сказаў Аляксандр Лукашэнка.

У сваю чаргу віцэ-прэм'ер Пётр Пракаповіч паведаміў, што ў краіне ў прыватным бізнэсе за тры гады плануецца стварыць не менш за 300 тысяч працоўных месцаў. Ён нагадаў: Праграма сацыяльна-эканамічнага развіцця Беларусі на 2011–2015 гады прадугледжвае ўнёсак малога і сярэдняга бізнэсу ў ВУП у 2015 годзе не менш за 30%.

На думку Пятра Пракаповіча, неабходна якасна змяніць структуру малога і сярэдняга бізнэсу, які ў асноўным працуе на тое, каб забяспечыць раздробны гандаль, імпарт: «Мы павінны перабудаваць яго такім чынам, каб ён займаўся ў асноўным прамысловай вытворчасцю, сферай паслуг — тымі напрамкамі, якія сёння запатрабаваныя і ў канчатковым рахунку вырашаюць лёс краіны».

РОЗДУМ

# ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ — ГЭТА ДОБРА ЦІ ДРЭННА?

Канстанцін СКУРАТОВІЧ

**Спытайся ледзь не кожнага, і ён адкажа, што настроі прасунутай часткі грамадства не адпавядаюць прынцыповым меркаванням уладаў.**

Прыкладам, прыватызацыя, якая пагражае раскраданнем фамільнага срэбра беларусаў. Пра яе небяспечнасць цвердзяць літаральна ўсе апазіцыйныя партыі на чале з іх лідарамі, ім дапамагаюць прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і СМІ. Узнікае пачуццё, што гэта далікатнае пытанне быццам толькі пачынае абмяркоўвацца. Быццам толькі зараз, з імпэтам і настойлівасцю, улада прыступае да канчатковага раскрадання дзяржаўнай маёмасці. Але на самай справе гэта цягнецца гадамі. Гадамі пакрыху раскрадаецца наша з вамі дзяржаўная маёмасць. Раскрадаецца па кішэнях і распрадаецца па знаёмствах.

І гадамі чуецца тая ж рыторыка. Вось Лукашэнка ладзіць чарговы разгон міністэрскім клеркам, якія абвясцілі пра неабходнасць прадаць амаль тысячу дзяржаўных і паўдзяржаўных прадпрыемстваў, якія замест прыбыткаў прыносяць бюджэту толькі страты. Маўляў, не прададзім радзіму за капейку. Але калі зараз не прадаць, то пазней не атрымаеш і ломанага грошыку.

Як гэта адбылося з ваеннымі гарадкамі, з калгаснымі фермамі і вытворчымі памяшканнямі, ад якіх адмаўляліся былыя фармальныя ўласнікі, бо з гэтага дабра ім насамрэч нічога не належала. Таму ніхто не хацеў бараніць «сваё», а поле бітвы захапілі марадзёры, наладзілі распродаж неліквіду, які прыносіў хоць і невялікія, але хуткія грошы. Бо медны грош у кішэні памнажаны на прыроднае нахабства дазваляюць нажыць натуральны капітал і аб'явіць сябе гаспадаром краіны. Такім маленькім, але самастворным, падобным да вялікіх самадзяржаўнікаў.

Але вось што цікава: чаму маёмасць належыць усёй грамадзянскай супольнасці, а права распараджацца ёй мае толькі чыноўніцтва?

Беспрынцыповасць асобных чыноўнікаў у гэтым сэнсе даведзеная да прафесійнай кваліфікацыі. І гэта ўжо другое «прафесіён дэ фуа», згодна з якім розніца паміж уласным свіронкам і казённым свірнам існуе толькі колькасная. Дыялектычныя спробы павялічыць памеры ўласнага коштам дзяржаўнага псіхалагічна зразумелыя.

Незразумела толькі, прыватызацыя 800 беларускіх прадпрыемстваў — добра ці дрэнна. Здаецца, добра. Бо ўласнік заўсёды клапоціцца пра маёмасць, пра тых, дзякуючы каму гэта маёмасць будзе прыносіць яму грошы. Такія сур'ёзныя эканамічныя зрухі павінны пацягнуць за сабой і зрухі палітычныя. І вось тут — стоп. Якраз палітычныя зрухі нікому і не патрэбныя. Таму эканаміст Леанід Злотнікаў просіць не спяшацца з высновамі. Ужо колькі разоў чыноўнікі складалі розныя спісы для продажу размаітага яшчэ савецкага ламачча. І зараз атрымаецца тое ж самае. Бо толькі дурань стане набываць тое, што ў любы момант у цябе экспрапрыююць. Памятаеце «Балтыку», кандытарскія прадпрыемствы?

Атрымліваецца, што прыватызацыя ў нашых умовах — гэта дрэнна? Ёсць тыя, хто лічыць прыватызацыю «працэсам раздзелу грамадскай уласнасці! Ад'ёмам уласнасці ў беларускага народа і ператварэнне 95% беларусаў у наёмных рабочых.

Для мяне асабіста прыватызацыя — гэта добра, але толькі калі яна праводзіцца празрыста, адкрыта і справядліва. Калі смачныя кавалкі не раздаюцца па знаёмых і надзейных кішэнях, калі не дораць гаспадарам цэлыя вёскі, калі для ўсіх ахвочых да дзяржаўнай маёмасці складаюцца роўныя ўмовы. Але пра якія роўныя ўмовы мы тут гаворым…

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

TV

## 4 САКАВІКА, ПАНЯДЗЕЛАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00,07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** У цэнтры ўвагі.
**10.00** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар у Нью-Ёрку» (Францыя-Італія).
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Вакол планеты.
**13.45** Журналіцкае расследаванне.
**14.25** Таямніцы следства.
**15.10, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Баявік «Стрытрэйсеры» (Расія).
**17.20** Усё як мае быць!
**17.45** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**19.20** Адмысловы рэпартаж АТН.
**19.40, 23.40** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**00.10** Дзень спорту.
**00.25** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** «Жыць здарова!».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** Фільм «2 дні».
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Тэорыя неверагоднасці.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Зваротны адлік».
**19.00** «Чакай мяне».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Адкрыты фармат».
**22.10** «Вячэрні Ургант».
**22.50** Прэм'ера. «Ірына Купчанка. Незвычайны цуд».
**23.50** «Да смерці прыгожая». Шматсерыйны фільм.
**00.40** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**10.10** «Уявіце сабе».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг».
**15.25** Канцэрт М.Задорнава.
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Судны дзень». Вялікабрытанія - ЗША - ПАР - Германія, 2008 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».
**00.45** «Пякельная кухня - 2».

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Следства вядзе Да Вінчы» (Канада). Заключная серыя.
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**11.15** Камедыя «На спіне ў чорнага ката».
**13.05** Камедыя «Жаніцьба Бальзамінава».
**14.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.30** Дэтэктыў «Жураў-2» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Прэм'ера. Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо». 1-я і 2-я серыі.
**20.45** «Імперыя песні». На біс.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Жураў-2» (Расія).
**22.35** Авертайм.
**23.05** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**00.00** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія).

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.00** «Карціна свету».
**10.55** Надвор'е на тыдзень.
**11.00, 14.00, 17.00** Весткі.
**11.30** «Ранішняя@пошта».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Прынцэса і жабрачка».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Дзяжурны па краіне».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.20** «Руская сенсацыі».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.35** Серыял «Марскія д'яблы».
**23.05** Сёння. Вынікі.
**23.25** «Сталін з намі». Фільм.

**МИР**

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** Выніковая праграма «Разам».
**10.00** М/ф «Беражыце мужчын!».
**11.30** «Агульны інтарэс».
**12.25** «Агульны рынак».
**12.40** «Навіны Садружнасці. Культура».
**13.15** Т/с «Гарачы лёд».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак».
**21.25, 05.25** «Свет спорту».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце сакрэтных ведаў».
**22.45** Ток - шоў «Слова за слова».
**23.35** Т/с «Зімовая вішня».
**01.25** «Зроблена ў СССР».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** ПраСвет.
**07.25** Зона «Свабоды».
**07.55, 15.10** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**08.20, 15.35** МакраФон: «Салідарныя з Беларуссю–2012», канцэрт: выступ «Maleo Reggae Rockers».
**08.40** Дак. гадзіна: «Усё нашае жыццё – соц-арт», дак. фільм, 2004 г., Расія.
**09.20** Два на два (тэледыскусія).
**09.45** Euromaxx.
**10.15** Форум (ток-шоу).
**11.05** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «У пошуках скарбаў».
**11.50** Зона «Свабоды».
**12.25** Фільматэка майстроў: «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**13.35** Эксперт (сатырычная праграма).
**14.05** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**14.45** ПраСвет.
**15.55** Дак. гадзіна: «Усё нашае жыццё – соц-арт», дак. фільм, 2004 г., Расія.
**16.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**16.50** Форум (ток-шоу).
**17.35** Відзьмо-невідзьмо: выд. 20.
**18.05** Еўропа сёння.
**18.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Не прапусці! (параднік гледача).
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень.
**21.45** Фільматэка майстроў: «Журэк», маст. фільм, 2003 г., Польшча.
**23.00** «Куды адплылі пінскія караблі?», рэпартаж, 2012 г., Польшча.
**23.25** Студыя «Белсат».
**01.05** Асабісты капітал.
**01.25** Аб'ектыў.
**01.55** Не прапусці! (параднік гледача).
**02.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 5 САКАВІКА, АЎТОРАК

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**10.05** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дак. серыял «Пад сонцам» (ЗША).
**12.10** Адмысловы рэпартаж АТН.
**12.30** Дакументальны серыял «Будзь у тонусе!» (Аўстралія).
**13.00** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна).
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.50** «Здароўе». Ток-шоў.
**17.40** Серыял «Маруся. Выпрабаванні».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.50** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна). Заключныя серыі.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**01.45** Фантастычны серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада).

**ОНТ**

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І таnна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Тэорыя неверагоднасці.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** «Задзіракі». Заключная серыя.
**01.10** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вялікі сняданак».
**09.40** «Такі лёс».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Знечуленне». ЗША, 2007 г.
**15.30** «Дзіўная справа».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Гарадскі паляўнічы». Японія - Ганконг 1992 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Жывая тэма».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Белыя ваўкі». Серыял.

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенны дэтэктыў «Замах». 1-я серыя.
**10.10** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Агляд тура.
**11.05** Авертайм.
**11.40** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**12.35** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо». 1-я і 2-я серыі.
**14.30** Дакументальны серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія - Вялікабрытанія).
**15.30** Дэтэктыў «Жураў -2» (Расія).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо». 3-я і 4-я серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Дэтэктыў «Жураў -2» (Расія).
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Манчэстэр Юнайтэд - Рэал. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Дортмунд - Шахцёр.

**РОССИЯ**

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Сумленны дэтэктыў». Аўтарская праграма.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Прынцэса і жабрачка».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Адмысловы карэспандэнт».

**НТВ**

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Чыстасардэчнае прызнанне».
**11.00** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Зброя».
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.45** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

**МИР**

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** М/ф «Двое ў новай хаце».
**11.30** «Даведнік».
**12.25** Т/с «Гарачы лёд».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак».
**21.25, 05.25** «Саюзнікі».
**21.55, 03.40** Д/ф «Эпоха. Падзеі і людзі».
**23.35** Т/с «Зімовая вішня».
**01.25** «Усюды жыццё».

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Асабісты капітал.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Не прапусці! (параднік гледача).
**09.40** Еўропа сёння.
**10.10** «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.25** Асабісты капітал.
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Не прапусці! (параднік гледача).
**14.35** Еўропа сёння.
**15.05** «Надзея», маст. фільм, 2008 г., Польшча.
**16.40** «Новенькая», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**17.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**18.00** На колах.
**18.30** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Фільм са страшнаю назваю».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.30** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Доктар Марцін», серыял: 9 серыя.
**22.35** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**22.50** Форум (ток-шоу).
**23.35** Студыя «Белсат».
**01.10** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**01.35** Аб'ектыў.
**02.00** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.20** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 6 САКАВІКА, СЕРАДА

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна). Заключная серыя.
**10.05** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**11.00** Дакументальны серыял «Пад сонцам» (ЗША). Заключная серыя.
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.40** Заўтра - гэта мы!
**13.10** Народная камедыя «Сваты-3» (Украіна). Заключныя серыі.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.50** Зямельнае пытанне.
**17.15** Медычныя таямніцы.
**17.45** Серыял «Маруся. Выпрабаванні» (Украіна). Заключная серыя.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Народная камедыя «Сваты-4» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**00.25** Дзень спорту.
**00.40** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**01.45** Серыял «Зорная брама. Першы атрад» (ЗША-Канада). Заключная серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І ганна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Тэорыя неверагоднасці.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Хай кажуць».
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ясенін».
**23.20** «Вячэрні Ургант».
**00.00** Прэм'ера. «Замуж за прынца».
**01.00** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Гадзіна суду».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Гарадскі паляўнічы». Японія - Ганконг 1992 г.
**15.35** «Жывая тэма».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «Красуні». Францыя, 1998 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Белыя ваўкі». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). 2-я серыя.
**10.10** Наперад у мінулае.
**10.45** Дэтэктыў «Задача з трыма невядомымі» («Беларусьфільм»). 1-я серыя.
**12.40** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо». 3-я і 4-я серыі.
**14.40** Драма «Прыкаваны» («Беларусьфільм»).
**16.45** Беларуская часіна.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**18.55** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо». 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** Спортлата 5 з 36.
**21.30** КЕНО.
**21.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**22.05** Фактар сілы.
**22.35** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. ПСЖ - Валенсія. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Ювентус - Сэлцік.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «ХА». Маленькія камедыі.
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Прынцэса і жабрачка».
**22.20** Тэлесерыял «Бедныя сваякі».
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** «Таямніца гары мерцвякоў. Перавал Дзятлава».

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Следства вялі.».
**11.10** «Да суда».
**12.05** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.35** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.30** Вострасюжэтны серыял «Зброя».
**23.20** Сёння. Вынікі.
**23.45** Вострасюжэтны серыял «Чужы раён».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Дынастыя».
**10.00** М/ф «Вясельны падарунак».
**11.30** «Незорнае дзяцінства».
**12.25** Т/с «Гарачы лёд».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак».
**21.25, 05.25** «Сакрэтныя матэрыялы».
**21.55, 03.40** Д/ф «У свеце мінулага».
**23.35** Т/с «Зімовая вішня».
**01.25** «Сардэчна запрашаем».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.00** Аб'ектыў.
**09.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** На колах.
**10.10** «Доктар Марцін», серыял: 9 серыя.
**11.00** Вагон.
**11.05** Форум (ток-шоу).
**11.55** Студыя «Белсат».
**13.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**13.55** Аб'ектыў.
**14.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.40** На колах.
**15.10** «Доктар Марцін», серыял: 9 серыя.
**15.55** Форум (ток-шоу).
**16.45** «Час гонару», серыял: 11 серыя.
**17.30** Асабістыя капітал.
**17.50** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.05** Праект «Будучыня».
**18.30** Беларусы ў Польшчы.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Пацукі».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Ночы і дні», серыял: 3 серыя.
**22.40** Два на два (тэледыскусія).
**23.05** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**23.45** Студыя «Белсат».
**01.20** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.40** Аб'ектыў.
**02.05** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.25** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы.

## 7 САКАВІКА, ЧАЦВЕР

### Беларусь 1

**06.00, 07.15, 08.20** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.55** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар жэніцца» (Францыя-Італія).
**11.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**12.10** Актуальнае інтэрв'ю.
**12.25** Сфера інтарэсаў.
**12.45** Нашы.
**12.55** Народная камедыя «Сваты-4» (Украіна). 1-я і 2-я серыі.
**15.15, 18.40** Рэгіянальная праграма.
**15.25** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**16.40** Каробка перадач.
**17.10** Дыялогі пра цывілізацыю.
**17.40** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 23.35** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**20.00** Серыял «Джамайка» (Расія -Украіна).
**21.00** Панарама.
**21.55** Святочны канцэрт, прысвечаны Дню міліцыі.
**00.10** Дзень спорт.
**00.20** Гістарычная меладрама «Жамчужына палаца» (Карэя Паўднёвая).
**01.25** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.20** «Зразумець. Прабачыць».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «І ганна, і хітра».
**12.05** «Няроўны шлюб». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**14.10** «Модны прысуд».
**15.10** «Заручальны пярсцёнак». Шматсерыйны фільм.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Тэорыя неверагоднасці.
**16.55** «Давай пажэнімся!».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Два з паловай чалавекі». Шматсерыйны фільм.
**18.50** «Поле цудаў». Святочны выпуск.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Шматсерыйны фільм «Ясенін». Заключная серыя.
**22.15** «Што?Дзе?Калі?» у Беларусі.
**23.35** «Вячэрні Ургант». Святочны выпуск.
**00.35** Фільм «Лісты да Джульеты».
**02.25** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 га-дзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Не хлусі мне!».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Пад абаронай».
**11.10** «Прошаная вячэра».
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Красуні». Францыя, 1998 г.
**15.35** «Якія людзі!».
**16.50** «Следакі». Серыял.
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Слова жанчыне». Серыял.
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.40** Фільм «М + Ж». Расія, 2009 г.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**23.55** «Аўтапанарама». Адмысловы жаночы выпуск.
**00.15** «Белыя ваўкі». Серыял. Закл. серыі.

### Беларусь 2

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.Беларусь.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Ваенны дэтэктыў «Замах» (Беларусь - Расія). 3-я серыя.
**10.10** Вышэй за дах.
**10.40** Дэтэктыў «Задача з трыма невядомымі» («Беларусьфільм»). 2-я серыя.
**12.05** Эксцэнтрычная камедыя «Выкрасці Бельмандо» (Белтэлерадыёкампанія). 5-я і 6-я, заключная, серыі.
**14.05** Біятлон. Кубак свету. Індывідуальная гонка. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**15.50** Беларуская часіна.
**17.00** Рэгіянальная праграма.
**18.00** Біятлон. Кубак свету. Індывідуальная гонка. Мужчыны.
**19.50** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**21.55** КЕНО.
**22.05** Тэлебарометр.
**22.10** Час футболу.
**22.55** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя.

### Россия

**07.00** «Раніца Расіі».
**10.05** «Справа Х. Следства працягваецца». Ток-шоў.
**11.00** Весткі.
**11.30** «Мая планета».
**12.00** «Прамы эфір».
**12.50** Тэлесерыял «Па гарачых слядах».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** «1000 дробязяў». Ток-шоў.
**15.10** «Пра самае галоўнае». Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Пелагія і белы бульдог».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.30** Мясцовы час. Весткі - Масква.
**17.45** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.55** «Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын». Тэлесерыял.
**18.50** «Ефрасіння. Тайговае каханне». Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.30** Тэлесерыял «Прынцэса і жабрачка».
**22.20** «Юрмала». Фэст гумарыстычных праграм.
**00.15** Навіны - Беларусь.
**00.25** Фільм «Беспасажніца» (2011 г.).

### НТВ

**06.00** Інфармацыйны канал «НТБ раніцай».
**08.10** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Крамлёўскія пахаванні».
**11.10** «Да суда».
**12.00** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** Серыял «Муж і жонка».
**15.15** «Справа густу».
**15.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Вострасюжэтны серыял «Зброя».
**21.25** Фільм «Саюз непарушны».
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.35** Фільм «Жорсткае каханне».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**05.50** М/с «Робін Гуд».
**06.20** «Цік-так».
**06.50** «Джэймі: Абед за 30 мінут».
**07.20** Т/с «Сэрцу не загадаеш».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00, 21.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Двое».
**10.00** М/ф «Няскончаная аповесць».
**12.25, 01.25** «Дыяспары».
**12.55** М/ф «9 месяцаў».
**14.30** «Кыргызстан у асобах».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**17.00, 22.45** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Акцэнты».
**18.45, 01.50** Т/с «Закон і парадак».
**21.25, 05.25** «Беларусь сёння».
**21.55, 03.40** Д/ф «Зорныя пары».
**23.35** Т/с «Зімовая вішня».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.40** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Ночы і дні», серыял: 3 серыя.
**11.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.10** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**11.50** Студыя «Белсат».
**13.25** Маю права (юрыдычная праграма).
**13.50** Аб'ектыў.
**14.15** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**14.35** Праект «Будучыня» (навукова-папулярны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**15.00** «Ночы і дні», серыял: 3 серыя.
**15.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.05** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**16.15** Невядомая Беларусь: «Цені ўлады», рэпартаж, 2012 г., Беларусь.
**16.50** «Час гонару», серыял: 12 серыя.
**17.40** Маю права (юрыдычная праграма).
**18.05** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.35** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Аблавушак».
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар (жывы эфір).
**19.15** Студыя «Белсат»: Сальда.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.30** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.15** Студыя «Белсат»: Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**21.40** Студыя «Белсат»: Мінуў дзень (інфармацыйнае падсумаванне дня).
**21.45** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 10 серыя.
**22.35** «Цягнік стаіць пяць хвілінаў», дак. фільм, 2009 г., Літва.
**23.30** Студыя «Белсат».
**01.05** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**01.30** Аб'ектыў.
**01.55** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**02.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

9 **ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ**

## 8 САКАВІКА, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.45** Мультфільмы.
**07.50** Добрай раніцы, Беларусь!
**09.00** Навіны.
**09.10** Лірычная камедыя «Службовы раман» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**12.00** Навіны.
**12.10** Меладрама «Маска слёзам не верыць» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**16.00** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**17.00** Святочны канцэрт «Усе песні для каханай» (Расія).
**18.45** Рамантычная камедыя «Красуня» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.55** Прэм'ера. Прыгодніцкая камедыя «Каханне з акцэнтам» (Расія).
**23.50** Дзень спорту.
**00.00** Лірычная камедыя «Службовы раман» (СССР). 1-я і 2-я серыі.

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Фільм «Вясна на Зарэчнай вуліцы».
**10.50** Камедыя «Самая абаяльная і прывабная».
**12.20** Фільм «Тытанік».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Музычная камедыя «Сватаўство гусара».
**17.40** Камедыя «Службовы раман».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Фільм «Мамы».
**23.05** Прэм'ера. «Самы лепшы дзень». Юбілейны канцэрт.
**00.40** Камедыя «Каханне злое…».

### СТВ

**06.00** Фільм «Гардэмарыны, наперад!». Расія, 1987 г.
**11.00** «Прошаная вячэра».
**11.50** «Аўтапанарама». Адмысловы жаночы выпуск.
**12.15** «Добры дзень, доктар».
**12.50** «Нам і не снілася».
**15.30** «Прошаная вячэра».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Фільм «М + Ж». Расія, 2009 г.
**18.30** «Такі лёс».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** Фільм «Ракавая красуня». Францыя, 2006 г.
**22.00** Фільм «Каханне і іншыя катастрофы». Францыя - Вялікабрытанія, 2006 г.
**23.45** «Глядзець усім!».
**00.35** Еўрапейскі покерны турнір.
**01.25** Фільм «Суперцешча для няўдачніка». Расія, 2003 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.15** Фільм «Папялушка» (СССР-ЗША).
**08.50** Тэлебарометр.
**08.55** Музычная камедыя «Беражыце жанчын» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**11.25** Музычная меладрама «Вулічныя танцы» (Вялікабрытанія).
**13.20** Народная камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**15.05** «Гісторыя майго кахання». Канцэрт.
**16.45** Камедыя «Па сямейных абставінах» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.25** Гумарыстычнае шоў «Юбілей Юрыя Гальцава» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Фантастычная камедыя «Анёл-А» (Францыя).
**23.10** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**23.55** Фактар сілы.
**00.25** Музычная меладрама «Вулічныя танцы» (Вялікабрытанія).
**02.00** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** «Пакой смеху».
**08.00** Фільм «Трое ў лодцы, не лічачы сабакі».
**10.25** Камедыя «Добры дзень, я ваша цётка!».
**12.25** Фільм «Люблю 9 сакавіка!» (2010 г.).
**14.00** Весткі.
**14.15** Лірычная камедыя «Жаніць мільянера» (2010 г.).
**17.30** «Крывое люстэрка».
**20.00** Весткі.
**20.35** Фільм «Навучаю гульні на гітары». 2012 г.
**23.55** Святочнае шоў Валянціна Юдашкіна.

### НТВ

**07.20** Вострасюжэтны фільм з цыклу «Марскія д'яблы. Лёсы-2».
**08.20** Фільм «Багіні правасуддзя».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Багіні правасуддзя».
**13.00** Сёння.
**13.20** Серыял «Прадчуванне».
**18.40** «Бывае ж такое!».
**19.00** Сёння.
**19.25** Фільм «Бальзакаўскі ўзрост ці ўсе мужыкі - сво. Пяць гадоў пасля».
**22.55** «Бальзакаўскі ўзрост. У пошуках шчасця».
**23.20** Фільм «Моцная».

### МИР

**05.00** М/ф-мы.
**07.20** М/ф «Варвара - краса, доўгая каса».
**09.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Жаніцьба Бальзамінава».
**10.50, 21.15** М/ф «Тры плюс два».
**12.40** «Гераіня ў стылі…».
**13.35, 15.15, 23.00** Т/с «Бомба для нявесты».
**18.15** М/ф «Папялушка з райскай выспы».
**19.50** М/ф «Жаночыя штучкі».
**02.30** М/ф «Прыродзе насуперак».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова.
**09.45** Euromaxx (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**10.10** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 10 серыя.
**11.00** «Цягнік стаіць пяць хвілінаў», дак. фільм, 2009 г., Літва.
**11.55** Форум (ток-шоў).
**12.45** «Вольга Іпатава», рэпартаж.
**13.00** МакраФон: «Навагодні канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча».
**13.50** «Саматра», дак. фільм, 2007 г., Польшча.
**14.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**14.55** «Зінаіда Бандарэнка», рэпартаж.
**15.10** Моўнік (лінгвістычная праграма).



**15.20** МакраФон: кліп-парад.
**15.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**16.00** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**17.35** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**18.05** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Мядзведзікі».
**19.00** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.10** «52 адсоткі», дак. фільм, 2007 г., Польшча–Расія.
**20.30** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Без рэтушы: «Барбі», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**21.40** «Палітыканы», серыял: 2 серыя.
**22.30** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.00** «Статысты», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**00.55** МакраФон: «Навагодні канцэрт Зміцера Вайцюшкевіча».
**01.45** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

## 9 САКАВІКА, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Камедыя «Прыходзьце заўтра…» (СССР).
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.40** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** «Усё як мае быць!» Забаўляльная праграма.
**12.10** Камедыйная меладрама «Самая абаяльная і прывабная» (СССР).
**13.55** Eurovision. Вынікі тыдня.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** Эксцэнтрычная камедыя «Жандар жэніцца» (Францыя-Італія).
**17.20** Каробка перадач.
**18.00** Таямніцы следства.
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.00** Навіны.
**19.10** Камедыя «Хто падставіў труса Роджара» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Баявік.
**23.40** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).

### ОНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Разумніцы і разумнікі».
**12.00** Фільм «Нябесныя ластаўкі».
**14.30** «Андрэй Міронаў і яго жанчыны».
**15.30** «Адгадай мелодыю». Святочны выпуск.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Я баюся, што мяне разлюбяць. Андрэй Міронаў».
**17.15** АНТ прадстаўляе: «Адзін супраць усіх».
**18.00** АНТ прадстаўляе: «Я спяваю!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Камедыя «Мужчына з гарантыяй».
**22.40** «Сёння ўвечар».
**00.15-02.00** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт групы «А-Студыо».

### СТВ

**06.20** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**08.00** «Анфас».
**08.15** Фільм «Ракавая красуня». Францыя, 2006 г.
**10.10** «Чыстая праца».
**11.00** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** Фільм «Прынцэса цырку». СССР, 1982 г. 1-я серыя.
**15.00** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Жанчын крыўдзіць не рэкамендуецца». Расія, 1999 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Чаго жадаюць жанчыны». ЗША, 2000 г.
**22.35** «Зорны рынг».
**23.40** «Дзіўная справа».
**00.30** Фільм «Кармэн». Іспанія-Вялікабрытанія-Італія, 2003 г.
**02.30** «Дурні, дарогі, грошы».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Дабравест.
**07.55** Камедыя «Па сямейных абставінах» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**10.25** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**11.30** Тэлебарометр.
**11.35** Пазакласная гадзіна.
**11.55** Альбарутэнія.
**12.30** Наперад у мінулае.
**13.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.40** Беларуская кухня.
**14.15** Мазгавы штурм.
**14.50** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**16.15** Футбол. Чэмпіянат свету-2014.
**16.45** Футбол. Ліга Еўропы УЕФА. Агляд тура.
**17.50** Біятлон. Кубак свету. Спрынт. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.15** Ваша лато.
**20.00** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Парушаючы запаведзі….
**21.00** КЕНО.
**21.05** Тэлебарометр.
**21.10** Імперыя песні.
**22.15** Прэм'ера. Фантастычны баявік «Бункару» (ЗША).
**00.25** Футбол. Чэмпіянат Англіі. Прэм'ерліга. Арсенал - Эвертан.

### РОССИЯ

**07.00** Мультфільм.
**07.15** Фільм «Беспасажніца» (2011 г.).
**08.45** Фільм «Сяброўкі» (2010 г.).
**10.25** «Ранішняя@пошта».
**11.00** Весткі.
**11.20** «Суботнік».
**12.00** «Гарадок». Дайджэст. Забаўляльная праграма.
**12.30** Камедыя «Сем старых і адна дзяўчына».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Усе зоркі для каханай». Святочны канцэрт.
**16.05** Тэлесерыял «Сваты».
**18.05** «Суботні вечар».
**19.00** «Карціна свету».
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі ў суботу.
**20.40** Фільм «Прадаецца котка». 2012 г.
**22.50** Фільм «Толькі пра каханне» (2012 г.).

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Іх норавы».
**08.55** «Гатуем».
**09.25** «Справа густу».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Галоўная дарога».
**10.55** «Кулінарны паядынак».
**11.55** «Кватэрнае пытанне».
**13.00** Сёння.
**13.20** «Бывае ж такое!».
**13.55** Серыял «Прадчуванне».
**19.00** Сёння.
**19.20** Серыял «Прадчуванне».
**22.50** «Прамень Святла».
**00.35** «Міс Расія-2013».

### МИР

**05.00** М/ф «Жаніцьба Бальзамінава».
**06.40** М/ф «Па сакрэце ўсяму свету».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «На шашлыкі».
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 00.40** М/ф «Міраж».
**14.05** «Зорныя пары».
**15.10** Т/с «Чалавек без пісталета».
**20.25** «Навіны Садружнасці. Культура».
**21.05** М/ф «Вялікі кайф».
**23.05** М/ф «Папялушка з райскай выспы».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.25** Казкі для дзетак: «Таямніца шыфру Марабу», «Фільм са страшнаю назваю», «Пацукі».
**07.55** «Зінаіда Бандарэнка», рэпартаж.
**08.10** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**08.25** «Галерэя Ады», дак. фільм, 2007 г., Беларусь.
**09.20** На колах (аўтамабільны тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** Форум (ток-шоў).
**11.25** Казкі для дзетак: «Таямніца шыфру Марабу», «Фільм са страшнаю назваю», «Пацукі».
**11.55** «Каханне ля поплаву», тэлесерыял: 10 серыя.
**12.40** «Час гонару», серыял: 11 серыя.
**13.30** «Навенькая», дэтэктыўны серыял: 3 серыя.
**14.15** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «У пошуках скарбаў».
**15.05** «Закаханы анёл», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**16.45** «Палітыканы», серыял: 2 серыя.
**17.35** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 10 серыя.
**18.00** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**18.30** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**18.55** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Рым», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**19.25** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Кітай», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**19.50** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**20.00** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**20.30** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 21.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, рэж. Вольга Нікалайчык, Польшча–Беларусь.
**21.40** Суботні сеанс: «Судовы выканаўца», маст. фільм, 2005 г., Польшча.
**23.20** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**23.45** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**00.00** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## 10 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### БЕЛАРУСЬ 1

**07.30** Камедыйная меладрама «Самая абаяльная і прывабная « (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Нашы.
**09.50** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).
**10.55** Медычныя таямніцы.
**11.25** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**12.10** Камедыя « Прыходзьце заўтра…» (СССР).
**14.15** Клуб рэдактараў.
**15.15** Рэгіянальная праграма.
**15.30** «Сакрэты італьянскай кавы». Відэастужка (Расія).
**16.05** Заўтра - гэта мы!
**16.35** Культурныя людзі +.
**17.10** «Месца сустрэчы». Музычна-забаўляльная праграма.
**18.10** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**19.10** Камедыя «Брус Усемагутны» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Мюзікл «Кабарэ» (ЗША).
**00.40** Камедыйны серыял «Суседзі» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** «Смешарыкі».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.50** АНТ прадстаўляе: «Брэйн-рынг».
**11.50** Фільм «Саламяны капялюшык».
**14.20** Фільм «Беражыся аўтамабіля».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Шматдзетныя нявесты».
**17.20** Прэм'ера. «Форт Баярд».
**18.50** АНТ прадстаўляе: «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вялікая розніца ТБ».
**23.00** Прэм'ера. Юбілейны канцэрт Вячаслава Бутусава.
**00.45** Фільм «8 міля».

### СТВ

**06.10** «Салдаты. Дзембель непазбежны». Серыял.
**07.50** Фільм «Чаго жадаюць жанчыны». ЗША, 2000 г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Вялікі сняданак».
**11.10** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман. Выкрыццё».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Прынцэса цырку». СССР, 1982 г. 2-я серыя.
**14.10** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Уявіце сабе».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Бандыткі». Францыя - Мексіка - ЗША, 2006 г.
**22.30** Прэм'ера. «Пякельная кухня - 2».
**23.50** Фільм «Так». ЗША - Вялікабрытанія, 2004 г.
**01.30** «Дурні, дарогі, грошы».

### БЕЛАРУСЬ 2

**07.00** Таямніца душы.
**07.25** Народная камедыя «Белыя Росы» («Беларусьфільм»).
**09.10** Гумарыстычнае шоў «Юбілей Юрыя Гальцава» (Расія).
**11.15** Тэлебарометр.
**11.20** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**12.25** Пазакласная гадзіна.
**12.40** Пра мастацтва.
**13.10** Вышэй за дах.
**13.45** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**14.20** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Мужчыны. Прамая трансляцыя.
**15.50** Лірычная камедыя «Падкідыш» (СССР).
**17.20** Біятлон. Кубак свету. Эстафета. Жанчыны. Прамая трансляцыя.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Спорт-кадр.
**21.55** Трагікамедыя «Зламаныя кветкі» (ЗША-Францыя).
**23.50** Камедыйны серыял «Светлафор» (Расія).
**00.05** Баскетбол. Адзіная ліга ВТБ.

### РОССИЯ

**07.00** Фільм «Мой пяшчотна каханы дэтэктыў».
**08.35** Фільм «Мелодыя кахання» (2010 г.).
**10.15** «Сам сабе рэжысёр».
**11.00** Весткі.
**11.15** «Смехапанарама».
**11.45** «У свеце жывёл».
**12.15** Мультфільмы.
**12.30** Фільм «Двое ў новай хаце».
**14.00** Весткі.
**14.15** «Ха». Маленькія камедыі.
**14.25** Вялікі святочны канцэрт.
**16.15** Тэлесерыял «Сваты».
**18.15** «Смяяцца дазваляецца». Гумарыстычная праграма.
**20.00** Весткі тыдня.
**21.25** «Фактар А».
**23.20** Фільм «Толькі пра каханне» (2012 г.).

### НТВ

**06.30** Вострасюжэтны дэтэктыў «Агент адмысловага прызначэння».
**08.00** Сёння.
**08.20** «Медыцынскія таямніцы».
**08.50** «Іх норавы».
**09.25** «Ямо дома!».
**10.00** Сёння.
**10.20** «Першая перадача». Аўтамабільная праграма.
**10.50** «Дачны адказ».
**11.55** «Паедзем, паямо!».
**12.25** «Цуд тэхнікі».
**13.00** Сёння.
**13.15** Баявік «Пацалунак у галаву».
**15.10** «Крамлёўскія жонкі».
**16.00** «Самыя гучныя «Рускія сенсацыі».
**19.00** Сёння.
**19.20** «Ванга вяртаецца! Сакрэтны архіў прадракальніцы».
**20.30** «Другое прышэсце Вангі».
**22.25** «Ванга. Усё, што было за кадрам».

### МИР

**05.00** М/ф-мы.
**06.30** М/ф «Прыгоды Бураціна».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Даведнік».
**09.40** «Ежа».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30** М/ф «Любоўная сувязь».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50, 21.00** Т/с «Я шпік».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.50** М/ф «Скала Малхоланд».
**23.50** «Музычны ілюмінатар».
**00.20** М/ф «Цыганская выспа».

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**07.15** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**07.40** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 10 серыя.
**08.05** Беларусы ў Польшчы.
**08.25** Зона «Свабоды».
**08.55** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**09.25** Навігатар (інфармацыйна-публіцыстычны тэлечасопіс).
**09.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**09.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.20** Без межаў (міжнародны грамадскі тэлечасопіс).
**10.35** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**11.05** Асабісты капітал (эканамічная праграма).
**11.25** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).
**11.30** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**11.45** Казкі для дзетак: «Аблавушак», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**12.10** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 10 серыя.
**12.40** «Час гонару», серыял: 12 серыя.
**13.25** «Ночы і дні», серыял: 2 серыя.
**14.20** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Рым», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**14.50** «Таемны свет ўэлнэсу: старажытны Кітай», дак. фільм, 2007 г., Германія–Аўстрыя.
**15.15** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.30** «Статысты», маст. фільм, 2006 г., Польшча.
**17.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.20** Невядомая Беларусь: «Забойства напярэдадні вясны», дак. фільм, Польшча–Беларусь.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавальная праграма).
**19.10** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Сіндыкат забойцаў».
**19.55** Дакументальная гадзіна: «Бэркат і Маршо. Свабода і шчасце», дак. фільм, 2007 г., Чэхія.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**21.55** Форум (ток-шоў).
**22.45** Фільматэка майстроў: «Аер», трагедыя, 2009 г., Польшча.
**00.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 21.
**00.35** Два на два (тэледыскусія).
**01.00** Жаўтуха (сатырычная праграма).

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты. **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка. 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі. 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

Гомель. (8 029) 697 82 75 Аляксандр;
Магілёў. (8 029) 604 34 57 Юрый;
Мінск. (8029) 178 31 68 Вольга;
Бабруйск. (8029) 628 75 01 Вольга;
Слуцк. (8029) 364 42 60 Зінаіда.

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты да 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________

Кассир Всего ________

КАНФЛІКТ

# КАРАБАХ: БЯСКОНЦАЕ РЭХА ВАЙНЫ

## ТРАГЕДЫЯ ХАДЖАЛЫ

**Маўсун ГАДЖЫЕЎ**

**26 лютага 1992 года пры ўзяцці горада Хаджалы армянскімі ўзброенымі фармаваннямі загінулі больш за 600 мірных жыхароў.**

Карэспандэнт CNN Юрый Раманаў, які адным з першых прыбыў на месца падзей, дзяліўся сваімі ўражаннямі: «Я зірнуў у круглае акенца верталёта і літаральна адхіснуўся ад непраўдападобна страшнай карціны. На жоўтай траве прадгор'я, дзе ў ценю яшчэ растаюць шэрыя аладкі снегу, што засталіся ад зімовых гурбаў, ляжалі мёртвыя людзі. На ўсёй гэтай аграмаднай плошчы да блізкага далягляду былі відаць трупы жанчын, старых, хлопчыкаў і дзяўчынак усіх узростаў, ад немаўлят да падлеткаў… Вока вырвала з месіва цэлаў дзве фігуркі — бабулі і маленькай дзяўчынкі. Бабуля з сівой непакрытай галавой ляжыць тварам уніз побач з малюсенькай дзяўчынкай у блакітнай куртачцы з каптуркам. Ногі ў іх чамусьці звязаныя калючым дротам, а ў бабулі — яшчэ і рукі. Абедзве застрэленыя ў галаву. У апошнім жэсце маленькая, гадоў чатырох, дзяўчынка працягвае рукі да забітай бабулі. Агаломшаны, я нават не адразу ўзгадваю пра камеру».

Хаджалы стаў чарговым звяном у ланцугу падзей, якія назавуць генацыдам, — за Хаджалы адбудзецца трагедыя ў Срэбраніцы, а потым і знішчэнне народа тутсі ў Руандзе.

Пра невялікі горад у Нагорным Карабаху свет даведаўся пасля ночы з 25 на 26 лютага 1992 года. У гэты дзень падраздзяленне Армянскага экспедыцыйнага корпуса (і, па адной з версій, расійскага 366-га мотастралковага палка) захапіла Хаджалы.

Для армянскага боку ўзяцце горада было вельмі важным — Хаджалы знаходзіцца ў 10 кіламетрах на паўночны ўсход ад Сцепанакерта, у раёне Карабахскага хрыбта. Праз Хаджалы праходзяць дарогі Агдам — Шуша, Аскеран — Сцепанакерт, і тут жа размешчаны аэрапорт — адзіны ў Нагорным Карабаху, які можа прымаць вялікія самалёты.

Штурму Хаджалы папярэднічаў масіраваны абстрэл з артылерыйскіх гармат, цяжкай ваеннай тэхнікі. У выніку ў горадзе распачаўся пажар. Каля 2 500 жыхароў горада з рэшткамі гарнізона пакінулі Хаджалы, каб прабіцца ў кірунку горада Агдам — найбліжэйшага пункта, населенага пераважна азербайджанцамі.

Да Хаджалы бакі прытрымліваліся правіла: падчас штурму і армянскія, і азербайджанскія войскі пакідалі калідор для адыходу мірнага насельніцтва.

Аднак каля сяла Нахічаванік, населенага армянамі, уцекачы наткнуліся на армянскі ўмацаваны пост. Уцячы ад масіраванага абстрэлу здолелі не ўсе — у выніку на наступны дзень знайшлі трупы каля 600 чалавек. 150 чалавек зніклі без вестак, лічыцца, што іх трупы згарэлі. Сярод забітых 106 жанчын, 76 дзяцей, 70 старых, параненыя больш за 500 чалавек.

Хаджалінскія падзеі прывялі да карэнных зменаў у карабахскім канфлікце. Супрацьстаянне, якое да падзей 26 лютага насіла тэрытарыяльны характар, калі аспрэчвалася прыналежнасць Карабаха да Арменіі ці Азербайджана, ператварылася ў міжнацыянальную вайну.

«Human Rights Watch» назвала трагедыю ў Хаджалы «самай вялікай разнёй за час карабахскага канфлікту». Пасля хаджалінскай разні стала зразумела, што больш ніякай літасці не будзе — пры найменшым падазрэнні на ўзяцце тэрыторыі мірнае насельніцтва адразу сыходзіла ці эвакуявалася.

Ёсць некалькі версій трагедыі ў Хаджалы, якія не аспрэчваюць адна другую.

Маркар і Сета Мелканян, брат і жонка Мантэ Мелканяна, які з пачатку лютага 1992 года быў адным з кіраўнікоў армянскіх узброеных атрадаў у Карабаху, у сваёй кнізе «My Brother's Road: An American's Fateful Journey to Armenia», адзначаюць, што наступленне на Хаджалы было здзейснена ва ўгодкі падзей у Сумгаіце і разглядалася армянскім бокам як своеасаблівы акт адплаты. У кнізе згадваецца, што асаблівую ролю ў разні адыгралі чальцы армянскага добраахвотніцкага атрада «Арабо», якія былі асабліва жорсткія з палоннымі, дабівалі кінжаламі азербайджанскіх уцекачоў з Хаджалы.

Варта адзначыць, што хаджалінскія падзеі адбыліся ў 4-ю гадавіну падзей у Сумгаіце.

Паводле другой версіі, армянскія сілы самастойна былі не ў стане ўзяць горад — у штурме Хаджалы ўдзельнічаў расійскі мотастралковы полк. Па словах відавочцаў, у горад першымі ўвайшлі менавіта расійскія салдаты. І тады падзеі ў Хаджалы выглядаюць як спроба Крамля аказаць ціск на Баку. Дарэчы, пасля ўзяцця Хаджалы армяне ў знак падзякі перайменавалі яго ў Іваньян.

І, нарэшце, паводле трэцяй версіі, Хаджалы быў актам застрашвання. Вядучы аналітык вашынгтонскага Фонду Карнэгі Томас дэ Ваал у сваёй кнізе «Чорны Сад» цытуе тагачаснага палявога камандзіра, а цяпер прэзідэнта Арменіі Сержа Саркісяна. «Да Хаджалы азербайджанцы думалі, што з намі можна жартаваць, яны думалі, што армяне не здольныя падняць руку на грамадзянскае насельніцтва. Мы здолелі зламаць гэты стэрэатып. Вось што адбылося. І трэба яшчэ прымаць да ўвагі, што сярод тых нашых былі людзі, уцекачы з Баку і Сумгаіта».

Праўда, паводле праваабарончага цэнтра «Мемарыял», Вярхоўны Савет самаабвешчанай Нагорна-Карабахскай Рэспублікі адразу пасля трагедыі выступіў з заявай, у якой выказаў шкадаванне з нагоды выпадкаў жорсткасці пры ўзяцці Хаджалы. У размовах з назіральнікамі «Мемарыяла» афіцыйныя службовыя асобы ў Сцепанакерце не адмаўлялі, што «пры ўзяцці Хаджалы маглі мець месца зверствы, бо сярод чальцоў армянскіх узброеных атрадаў ёсць узлаваныя людзі, чые сваякі былі забітыя азербайджанцамі, а таксама асобы з крымінальным мінулым».

Хаджалінскія падзеі сталі асобным фронтам у інфармацыйнай вайне паміж Ерэванам і Баку. Падзеі ў Хаджалы прызналі генацыдам парламенты Турцыі, Мексікі, Калумбіі, Пакістану і некалькіх штатаў ЗША — Арканзаса, Нью-Мексікі, Масачусетса. Генацыдам падзеі 26 лютага ў Хаджалы прызнаў і чэшскі парламент. На сайце Белага дома ўжо сабрана петыцыя з 100 тысяч подпісаў з заклікам да прэзідэнта ЗША выказацца наконт падзей у Хаджалы.

І гэта ўсё адбываецца на фоне фактычнага правалу перамоўнага працэсу паміж Арменіяй і Азербайджанам па ўрэгуляванні карабахскай праблемы. Перамовы ідуць з моманту падпісання дамовы пра спыненне агню ў Бішкеку ў маі 1994 года, і зараз зразумела, што ні адзін з бакоў да кампрамісу не гатовы.

Дзе ж выйсце? Зараз і ў Баку, і ў Ерэване ўсё часцей выказваюцца спадзяванні, што мірнае ўрэгуляванне можа быць звязана з еўрапейскай інтэграцыяй двух бакоў — і Азербайджан, і Арменія актыўна ўдзельнічаюць у праграме ЕС «Усходняе партнёрства», якая дэкларуецца як мост да інтэграцыі ў ЕС. А адсутнасць межаў можа вельмі спрыяць вырашэнню праблемы.



Папярэджанне на ўсе часы. Мастак Васіль Верашчагін. «Апафеоз вайны», 1871

## КРОЎ І ГОНАР

**Яўген КАРАМЬЯН, Масква**

**Армяна-азербайджанскі канфлікт — гэта крывавая рана на целе Каўказа. Боль, што ніяк не можа суцішыцца. Нянавісць не заціхае, бо забагата праліта крыві і занадта шмат здзейснена жахлівых злачынстваў. Прычым з абодвух бакоў.**

Армянская разня ў Сумгаіце адгукнулася праз некалькі гадоў бойняй азербайджанцаў у Хаджалы. Падчас баявых дзеянняў здзяйсняліся і іншыя злачынствы. Рабаванні, марадзёрства, расстрэлы палонных. Крывавыя зачысткі населеных пунктаў рэгіёна, ахопленага вайной на знішчэнне. Абодва бакі канфлікту настолькі ўгневаліся, што ўжо не звярталі ўвагі, ці то вайсковец варожай арміі, ці то мірны жыхар.

У Арменію і Азербайджан пацягнуліся калоны ўцекачоў, што страцілі ўсе. Пашанцавала тым, хто дайшоў да бяспечных тэрыторый. Здараліся і напады на гэтыя калоны.

У назіральніка збоку, ашаломленага тэлевізійнымі рэпартажамі, складалася ўстойлівае ўражанне, што армяне і азербайджанцы вядуць вайну ўжо не столькі за Карабах, колькі на поўнае знішчэнне адзін аднаго.

Радыкалы з абодвух бакоў заклікалі не спыняць баявыя дзеянні, пакуль не будзе знішчаны апошні прадстаўнік ненавіснага народа. Абодва бакі не грэбавалі выкарыстоўваць у сваёй прапагандзе шалёныя шавіністычныя, ксенафобскія лозунгі.

Лозунгі, якія прывялі да забойстваў мірнага насельніцтва з абодвух бакоў, да тактыкі не браць палонных і дабіваць параненых. Да палітыкі поўнай і канчатковай адмовы ад жэнеўскіх канвенцый.

Трэба адзначыць, што да гэтага часу кампанія ўзаемнай нянавісці так і не спыненая. Нарадзіліся і выраслі цэлыя пакаленні, упэўненыя ў тым, што ўсе беды ад суседзяў, і пакуль сусед не знішчаны да апошняга чалавека, у твайго народа не будзе росквіту.

Шмат што ў прапагандзе было ўзята з рэпертуару Трэцяга Рэйха. Армяне і азербайджанцы пішуць адзін пра аднаго, як нацысты пра габрэяў. І гэта працягваецца і зараз, прычым на Каўказе, дзе кожны чалавек настолькі ганарысты, што памятае крыўды, нанесеныя яго продкам гадоў 500 таму.

Дзе ж палягаюць карані нянавісці армян і азербайджанцаў адзін да аднаго? Разня туркамі армян у 1915 годзе і змаганне дашнакаў з мусаватыстамі падчас грамадзянскай вайны? Сёння гэта ўсё ўжо не істотна. Важна іншае. Сыход Расіі з Закаўказзя другі раз за XX стагоддзе прывёў да таго, што народы, якія насяляюць рэгіён, згадалі векавыя крыўды і пачалі войны на ўзаемнае знішчэнне.

Мяне немагчыма пераканаць у адваротным прыгожымі лозунгамі пра незалежнасць, пра абарону дзяржаўных інтарэсаў ці нацыянальнага гонару. Чаго варты нацыянальны гонар, калі дзеля гэтага нішчацца мірныя людзі, уся віна якіх палягае ў тым, што яны не той нацыянальнасці?! Адбываецца гвалт з жанчын і старых. Штык-нажамі рэжуцца на кавалкі немаўляты ці ўспорваюцца жываты цяжарным жанчынам. Тут варта нагадаць, што ў 1946 годзе ў Нюрнбергу ўжо судзілі такіх вось аматараў нацыянальнага гонару.

І сёння зноў рэгіён на мяжы новай вайны. Зноў з абедзвюх сталіц гучаць ваяўнічыя заклікі і прапаганда робіць з суседзяў недачалавекаў, якіх трэба абавязкова знішчыць.

Зразумела, што армяне не сыдуць з Карабаха, не дадуць сябе выгнаць з гэтай палітай крывёй зямлі. Безумоўна, азербайджанцы таксама не збіраюцца прызнаваць за армянамі Карабах і марыць пра рэванш. І калі, крый Божа, пачнецца новая вайна, дык весціся яна, безумоўна, будзе з яшчэ большай жорсткасцю, і зноў будуць адрынутыя жэнеўскія канвенцыі.

Войны на Каўказе заўсёды вяліся, як і на Балканах, з фанатычнай нянавісцю да ворага. Гэта не еўрапейскія войны. Тут няма кодэксаў гонару і вядзення вайны. Дый амаль за дваццаць гадоў, якія прайшлі з дня спынення карабахскага канфлікту, назапасілася занадта шмат крыўдаў. І гэта пагражае новым выбухам.

І ўсё ж выйсце ёсць. Неабходна дэмілітарызацыя рэгіёна. Трэба замяніць шавіністычную прапаганду культурным абменам. І пачаць нарэшце на справе адбудоўваць свае краіны і адраджаць грамадзянскую супольнасць. Абодва народа павінны не варагаваць, а развіваць свае краіны. Бо яшчэ гадоў дваццаць канфлікту — і можна зноў прачнуцца ў Расійскай імперыі… Калі, вядома, Расія захаваецца. Але гаворка не пра пуцінскі рэжым…

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КІТАЙ. УПЕРШЫНЮ СУДЗЯЦЬ ХУНВЕЙБІНА

Увесь кітайскі інтэрнэт стаіць на вушах з-за паведамлення на сайце афіцыйнага агенцтва «China News Service» пра судовы працэс над асобай, якая забіла падчас культурнай рэвалюцыі ў 1967 годзе доктара (у той час усе прадстаўнікі гэтай прафесіі лічыліся контррэвалюцыянерамі). Адпаведна інфармацыі «China News Service», абвінавачанне выстаўлена на адрас спадара Цю, якому, дарэчы, стукнула 80 гадоў. Ліберальная грамадскасць успрыняла гэта паведамленне як знак хуткіх дэмакратычных перамен. Справа ў тым, што ў КНР забаронена казаць пра ахвяраў культурнай рэвалюцыі з-за таго, што гэта кідае цень на бацьку нацыі Мао Цзэдуна, які, як вядома, інспіраваў кампанію культурнай рэвалюцыі. Гэты трагічны перыяд гісторыі дасюль праходзіць у падручніках КНР як «эпізод барацьбы». Адсюль і энтузіязм ліберальнай публікі, які, аднак, магчыма, заўчасны. Ёсць інфармацыя, што той самы Цю знаходзіўся ў вышуку з 1980 года за розныя правіны, таму, верагодна, што яго злачынства ў якасці хунвейбіна папросту дадалі да агульнай справы.

**Паводле французскай прэсы**

### УКРАІНА. НАЦЫЯНАЛІСТЫ СВЯТКУЮЦЬ 23 ЛЮТАГА?

Як і ўсе антыкамуністы былога СССР, украінскія нацыяналісты не ведаюць, што рабіць з папулярнымі савецкімі святамі, якія захаваліся ў масавай культуры. Праблема тычыцца і Дня абаронца айчыны 23 лютага. Тым не менш свята дастаткова папулярнае сярод простых украінцаў як дзень мужчын. Не будучы здольнымі зламаць дзіўную традыцыю, нацыяналісты прыдумалі сваю фішку. Аўтарытэтная апазіцыйная «Украінская праўда» змясціла артыкул з заклікам святкаваць 23 лютага. Справа ў тым, што ў гэты дзень адбываліся вельмі значныя для вайсковай гісторыі Украіны падзеі. Непасрэдна гаворка ідзе пра бой, які адбыўся 23 лютага 1918 года пад Жытомірам паміж рэшткамі войскаў Украінскай Народнай Рэспублікі і бальшавікамі, якія напярэдадні ўзялі Кіеў. У гэты дзень украінцы прыпынілі наступ чырвоных. А хутка на дапамогу ім падышлі немцы, з якімі УНР заключыла ў Брэсце пагадненне. Ужо 1 сакавіка 1918 года над Кіевам зноў лунаў жоўта-блакітны флаг. Вось такая альтэрнатыўная гісторыя 23 лютага. Гучыць яна някепска, аднак, калі меркаваць па каментарах, большасць нацыяналістаў згодныя, што пры любой альтэрнатыўнай трактоўцы 23 лютага ўсё роўна будзе выклікаць асацыяцыі з Чырвонай Арміяй, а не войскамі УНР.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЛІТВА. УСПАСКІХ УЗБУЙНЯЕЦЦА



Скандальны літоўскі палітык Віктар Успаскіх працягвае пашыраць уплыў на літоўскую палітыку. З'явіліся чуткі, што бліжэйшым часам ягоная «Партыя працы» аб'яднаецца з партыяй «Парадак і справядлівасць» Рональдаса Паксаса. На тусоўках палітыкуму гавораць, што прынцыпова рашэнні могуць быць прынятыя вельмі хутка. На першы погляд, ідэя амаль вар'яцкая. Успаскіх эксплуатуе левыя тэмы, а Паксас называе сябе правацэнтрыстам. Аднак у праекта ёсць свае прывабліввя бакі. Партыя «Парадак і справядлівасць» можа стаць больш уплывовай, зараз у яе 10 дэпутацкіх мандатаў, у «Партыі працы» — 29. Пасля аб'яднання новая партыя будзе валодаць максімальна 39 дэпутацкімі галасамі. А гэта ўжо сіла. Што тычыцца «лейбарыстаў», то ім трэба як мага хутчэй пазбавіцца назвы «Партыя працы», скампраметаванай шматлікімі аферамі. Ёсць яшчэ адна версія ўніі. Як вядома, Паксас і Успаскіх неаднаразова падазраваліся ў лабіраванні інтарэсаў «Газпраму». Магчыма, у Маскве вырашылі, што для большага эфекту патрэбна адна палітычная сіла, а не дзве маленькія. Аднак гэта ўсё, натуральна, версіі і плёткі.

**Паводле літоўскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. АБРАНЫ НОВЫ МУФЦІЙ

У Казахстане на Курултаі мусульман аднагалосна абраны новы духоўны кіраўнік. Ім стаў Ержан Маямераў, якому ўсяго 40 гадоў. Раней ён кіраваў мусульманамі Сяміпалацінску, а рэлігійную адукацыю атрымаў у Егіпце. Натуральна, прызначэнне выклікала шмат версій. Як вядома, сітуацыя з ісламам у краіне няпростая. Апошнім часам узніклі ісламскія фундаменталісцкія і нават тэрарыстычныя групоўкі. У выніку прайшла перарэгістрацыя ўсіх абшчынаў. Менавіта тое, што Абсатар Дзербісалі, папярэдні муфцій, не змог сваім аўтарытэтам утрымаць вернікаў ад захаплення новымі дэструктыўнымі тэорыямі, і называюць чыннікам яго адстаўкі. Акрамя таго, і адміністратар з яго кепскі, паколькі кар'еру ён зрабіў у савецкі час як знавец ісламу. Тое, як хутка Абсатар Дзербісалі адмовіўся ад пасады (па яго словах, такое рашэнне ён прыняў пасля размовы з казахскім прэзідэнтам), яшчэ раз засведчыла поўную залежнасць рэлігійных устаноў ад дзяржавы ў Казахстане. Не дарма кіраўнік краіны, звяртаючыся да муфція, паставіў перад ім задачу: узяцца за выданне фетваў у рамках законаў шарыяту па актуальных пытаннях у грамадстве і актыўна працаваць з моладдзю.

**Паводле казахскай прэсы**

ДЫКТАТАРЫ

# СЫН АДКАЖА І ЗА БАЦЬКУ

*Алег НОВІКАЎ*

**Гаіцянскі суд пастанавіў, што былы дыктатар Жан-Клод Дзювалье, сын дыктатара Франсуа Дзювалье, павінен быць прыцягнуты да адказнасці за парушэнне правоў чалавека.**



Нягледзячы на тое, што злачынствы Бэбі Дока (мянушка Жан-Клода) у гэтай сферы відавочныя — ёсць сотні фактаў катаванняў, забойстваў падчас яго праўлення, — дарога ў суд была вельмі доўгай. Нават напярэдадні судовага рашэння гаіцянскія СМІ заўзята спрачаліся наконт таго, ці сапраўды калі-небудзь Дзювалье-малодшага асудзяць за парушэнне правоў чалавека.

Юрыдычная валакіта вакол справы Дзювалье цягнецца ўжо два гады. Усё пачалося, калі Жан-Клод вярнуўся з эміграцыі і быў фармальна ўзяты пад хатні арышт. Дарэчы, да гэтага часу не пачаўся працэс за здзейсненыя ім эканамічныя злачынствы (паводле справаздачы арганізацыі «Global Transparency Report», ён уваходзіў у топ–10 самых карумпаваных палітыкаў 1980-х гадоў). Прычына простая: у цяперашняй палітычнай эліце ў Дзювалье шмат сваіх людзей. Нават прэзідэнт краіны Мішэль Мартэлі паходзіць з сям'і, блізкай да клану Дзювалье.

Аднак у выніку, як бачым, лобі не дапамагло. Усё з-за таго, што пытанне суду над Бэбі Докам набыло больш глабальны маштаб. Як піша прэса, па сутнасці гаворка ідзе пра давер гаіцян да айчыннай Феміды. Такая гіпертрафаваная пастаноўка пытання, безумоўна, звязаная з фігурай бацькі Бэбі Дока — Франсуа Дзювалье, вядомага як Папа Док.

Папа Док лічыцца адным з самых брутальных дыктатараў у гісторыі. Час яго дыктатуры (1957–1971) адзначаны масавымі палітычнымі рэпрэсіямі, ахвярамі якіх сталі каля 29 тысяч чалавека. Дзювалье забараніў усе палітычныя партыі, акрамя кіруючай, зачыніў усе апазіцыйныя выданні, распусціў прафсаюзы і студэнцкія арганізацыі. Святары, якія не пажадалі праслаўляць яго рэжым, былі высланыя з краіны. Адзін з сілавікоў пазней узгадваў, што бос спусціў яму план — штогод забіваць 500 апазіцыянераў. За час кіравання Франсуа Дзювалье і так небагатая Гаіці стала самай беднай кранай свету.

Аднак за свае злачынствы Папа Док так і не адказаў. Ён памёр у 1971 годзе, паспеўшы правесці рэферэндум аб праве прызначаць пераемніка, якім і стаў Жан-Клод. Гэта быў адзін з самых арыгінальных плебісцытаў у гісторыі: з 2 391 916 прагаласаваўшых ніводны не выказаўся супраць. Цікава, што сам Жан-Клод, якому тады стукнула толькі 19 гадоў і які жыў як плэйбой, спачатку не хацеў улады. Ён спрабаваў перадаць паўнамоцтвы прэзідэнта сваёй старэйшай сястры. Аднак хутка стаў самым маладым у сусветнай гісторыі прэзідэнтам, прычым пажыццёвым.

Яго рэжым спачатку быў больш мяккі за бацькоўскі. Бэбі Док выпусціў шэраг палітвязняў, паслабіў ціск на прэсу і дазволіў публічна крытыкаваць сябе. Першымі рэформы заўважылі ў Вашынгтоне, дзе не ведалі, што рабіць з Гаіці з-за забабонаў Папы Дока і шукалі хоць нейкае апраўданне, каб дапамагаць свайму саюзніку. Адміністрацыя Ніксана аднавіла гуманітарныя пастаўкі ў краіну, хаця пры Джымі Картэры амерыкана-гаіцянскія адносіны зноў сапсаваліся. Прыход у Белы дом адміністрацыі антыкамуніста Рэйгана, які баяўся экспансіі ідэй сандзіністаў на Карыбы, палепшыла стасункі. Аднак у выніку гэта паляпшэнне значыла татальную канчатковую залежнасць Гаіці ад паўночнага суседа. Як толькі кан'юнктура змянілася, Белы дом вырашыў пазбавіцца Дзювалье-малодшага. Менавіта пасля размовы з амерыканскім дыпламатам у 1986 годзе Жан-Клод імкліва збег з краіны. Перад гэтым ён паспеў даць інтэрв'ю, у якім заявіў, што яго рэжым «моцны, як хвост малпы».

Эміграцыі папярэднічала некалькі важных падзей. Па-першае, у 1978 годзе на Гаіці з'явіўся свіны грып, і міжнародныя медычныя ўстановы пастанавілі для прафілактыкі знішчыць усіх свіней, а гэта — галоўная хатняя жывёла бедных гаіцян. Па-другое, на пачатку 1980-х гадоў з-за эпідэміі СНІДу стаў паступова згортвацца турыстычны бізнэс. Абедзве падзеі сталі чыннікам жахлівай маргіналізацыі насельніцтва, якому ўжо не было чаго губляць.

Нельга сказаць, што ўлады сядзелі склаўшы рукі. Пры Жан-Клодзеназіраўся працэс манапалізацыі дзяржавай вытворчасці і імпарту тавараў масавага спажывання. Са шматлікімі даследчымі медыцынскімі ўстановамі за мяжой былі заключаны дамовы пра тое, што органы нябожчыкаў-гаіцян будуць прадавацца для эксперыментаў. Атрыманых сродкаў хапіла Жан-Клоду, каб у 1980 годзе арганізаваць шыкоўнае вяселле коштам у тры мільёны долараў. Такія грошы спатрэбіліся, па словах афіцыйных СМІ, каб аднавіць у краіне расавы мір. Справа ў тым, што нявеста Жан-Клода была мулаткай, якіх яго бацька Папа Док жорстка пераследаваў. Шлюб чорнага і мулаткі павінен быў перагарнуць драматычную старонку гэтай гісторыі.

Магчыма, расавы мір і быў дасягнуты, аднак сацыяльны мір так і не надышоў. Даліў алею ў агонь візіт на Гаіці ў 1983 годзе Папы Рымскага Яна Паўла II, які падчас імшы сказаў, што «тут (маючы на ўвазе Гаіці) трэба нешта мяняць». Пасля гэтага фронда набыла масавы характар. Спроба ўвесці больш дэмакратычную канстытуцыю ў 1985 годзе не спыніла тэндэнцыю. Разумеючы, што сітуацыя можа выйсці з-пад кантролю, Рональд Рэйган даў зразумець свайму сатэліту, што больш не будзе яго падтрымліваць.

Бэбі Док эміграваў у Францыю, дзе шыкоўна жыў на сваёй віле. Аднак ідылія скончылася хутка. Спачатку ад Жан-Клода сышла тая самая жонка-мулатка, адсудзіўшы добрую частку яго грашовых рэзерваў. Пасля сталі даставаць праваабаронцы. Парыж так і не даў былому дыктатару палітычнага прытулку. Такім чынам, фактычна, ён быў нелегалам, на што звярнулі ўвагу актывісты праваабарончых арганізацый. У Парыжы імігрантамі з Гаіці быў створаны камітэт, які пачаў рыхтаваць матэрыялы для іску супраць Дзювалье за парушэнні правоў чалавека. Узніклі праблемы са швейцарскімі банкамі, дзе экс-дыктатар трымаў капіталы. Федэральнае кіраванне юстыцыі Швейцарыі ў лютым 2009 года прыняло рашэнне аб перадачы Гаіці заблакаваных на рахунках у Швейцарыі сродкаў Дзювалье.

І Бэбі Док вырашыў вярнуцца на радзіму. Тым больш, што на самой Гаіці ніякай стабільнасці пасля 1986 года і не пахла. Палітычная анархія, як заўсёды, вылілася ў настальгію па былых часах. У 2006 годзе на востраве быў створаны Фонд Франсуа Дзювалье, які даводзіў, што не толькі ўсё дрэннае было звязана з прозвішчам Дзювалье. Менавіта дзякуючы Папу Доку, быццам, у краіне сфармаваліся эфектыўная дзяржаўная вертыкаль, а чарнаскурыя дзеці атрымалі доступ да школьнай адукацыі.

Аднак, відаць, гэтыя дасягненні аказаліся не такімі вялікімі ў параўнанні з іншымі ўчынкамі Дзювалье. Інакш бы яго сына пасля вяртання не пасадзілі пад хатні арышт ужо на наступны дзень. Цяпер, пасля рашэння суда, быццам, ва ўсёй гэтай гісторыі засталося паставіць кропку. Аднак інтрыга захоўваецца. У пачатку студзеня ўсё той жа Мішэль Мартэлі выдаў Жан-Клоду Дзювалье дыпламатычны пашпарт, які дазваляе яму ў выпадку небяспекі зноў падацца на ўцёкі.

З НАГОДЫ

# ІТАЛІЯ. ПАЧАТАК ТРЭЦЯЙ РЭСПУБЛІКІ

Алег НОВІКАЎ

**Выбары ў італьянскі парламент сталі асноўнай тэмай шматлікіх вядучых замежных СМІ і вядомых аналітыкаў.**




«Італія галасуе — Еўропа дрыжыць», — такімі словамі адна з нямецкіх газет анансавала выбары 25 лютага. Італьянская эканоміка — трэцяя ў Еўропе, яе стан уплывае на агульныя трэнды. Таму пакуль яе трасе ў ліхаманцы (цяпер знешні доўг Італіі дасягае 125 працэнта ВУП), лёс еўразоны застаецца незразумелым. Менавіта таму адразу пасля агучвання папярэдніх вынікаў курс еўра скокнуў уніз.

Тон большасці аналітыкаў, якія каментуюць італьянскія навіны, эмацыйны, напружаны. Палітычная стабільнасць, якая павінна была стаць інстытуцыйным падмуркам для эканамічных рэформаў, неабходных у тым ліку для выратавання еўразоны, яўна не дасягнутая.

Праўда, сустракаюцца ў гэтым моры скепсісу і пазітыўныя рэфлексіі. Напрыклад, нямецкая прэса з задавальненнем канстатуе нізкі інтарэс выбаршчыкаў да забабонаў супраць немцаў. Нагадаем, што ў краінах — ахвярах крызісу папулярны міф пра тое, што праграмы бюджэтнай эканоміі навязваюцца Берлінам. Напярэдадні выбараў сярод італьянскай эліты было вельмі модна прызнавацца ў антыпатыях да фраў Меркель. Аднак у час выбараў бытавая ксенафобія на палітычны ўзровень так і не выйшла.

Трэба вылучыць артыкул у нямецкім «Welt». Яго аўтар лічыць, што галоўным сюрпрызам 25 лютага для еўрапейцаў стаў відавочны дэфіцыт ведаў пра ўсе закуткі загадкавай італьянскай душы. Сапраўды, элементарная палітычная логіка падказвала, што стаўку на выбарах трэба рабіць на левую Дэмпартыю, якая ідзе на выбары на фоне імклівай эрозіі правага флангу, выкліканай адстаўкай Сільвіа Берлусконі. Аднак нечакана спісаны ва ўтыль, скампраметаваны рознымі «бунга-бунга» і карупцыйнымі аферамі Берлусконі зноў выстаўляе сваю кандыдатуру і ў выніку ледзь не перамагае. Разрыў у колькасці набраных галасоў паміж правай і левай кааліцыямі складае нейкі сотых працэнта.

Сакрэт такога трыумфальнага вяртання Кавалера нам, іншаземцам, цяжка зразумець. Нават беручы пад увагу тое, што Берлусконі шмат абяцаў і яшчэ ў дзёбюце выбараў манапалізаваў лозунг адмены балючага для італьянцаў падатку на нерухомасць, які ўвёў папярэдні прэм'ер Марыё Монці. Аднак гэтага тлумачэння яўна не дастаткова. Сярод аргументацыі, якую прапануюць эксперты, ёсць вельмі цікавыя думкі. Напрыклад, Італьянскі цэнтр выбарчых навук лічыць, што Берлусконі рэпрэзентуе тыповы спосаб мыслення італьянцаў, які заключаецца ў формуле: «Закон ёсць, аднак яго нейкім чынам можна абыйсці». Хаця гэта тэма для асобнага артыкулу, аднак было б цікава зрабіць праекцыю італьянскіх версій харызмы Берлусконі на айчынныя версіі папулярнасці Лукашэнкі.

Не менш цяжка зразумець прычыны правалу дэмакратаў, якія за два тыдні да выбараў (пасля гэтага ў Італіі забаронена публікаваць апытанні наконт папулярнасці кандыдатаў) мелі каля 36 працэнтаў падтрымкі. Выданне «The Guardian» лічыць, што прычына правалу — амбівалентнае стаўленне Дэмакратычнай партыі да прапанаванай Брусэлем палітыкі жорсткай эканоміі. Пішуць, што некаторыя левыя выбаршчыкі, баючыся, што асцярожны партыйны наменклатуршчык Берсані можа быць абсалютным пераможцам, спецыяльна галасавалі за Бепе Грыла, каб дэмакраты адчувалі канкурэнцыю злева і не стаялі на месцы.

Але галоўны інтарэс аналітыкі цяпер тычыцца не таго, што было, а таго, што будзе. А гэта цяпер залежаць ад Бепе Грыла. З-за расчаравання ў старым палітыкуме яму ўдалося крышталізаваць вакол сябе маладую генерацыю, якой таксама імпанавала вялікая роля, якую Бепе адводзіў інтэрнэт-рэсурсу. Дарэчы, адзін з лозунгаў M5S (абрэвіятура «Руху пяці зорак») — наданне кожнаму італьянскаму грамадзяніну права на бясплатны інтэрнэт.

Уявіць рэалізацыю гэтага патрабавання яшчэ можна. А вось, што рабіць з праграмным пунктам «Руху пяці зорак» пра тое, каб узняць мінімальную дапамогу па беспрацоўі да 1000 еўра. Для гэтага, з улікам італьянскай сітуацыі на рынку працы (11 працэнтаў беспрацоўных), будзе патрэбна 60 мільярдаў еўра штогод. Яшчэ больш супярэчнасцяў выклікае ідэалагічны профіль Грыла. Ён, бясспрэчна, не правы палітык, паколькі выступае за грамадзянскі кантроль улады праз той жа інтэрнэт і смяецца з Берлусконі. Аднак і левым яго назваць цяжка, калі ўзгадаць яго спічы з заклікам распусціць прафсаюзы і абсалютна персаніфікаваны характар яго «Руху пяці зорак».

Рэбус Грыла цяпер намагаецца разгадаць шмат хто. Уплывовы італьянскі часопіс «L'Espresso» прагназуе, што абраныя па спісу Грыла дэпутаты будуць атручаныя парфумам улады і хутка стануць часткай дзяржаўных інстытутаў. Калі ўсё здзейсніцца з такой перспектывы, Грыла можа быць зацікаўлены ў тым, каб не дапусціць бюракратызацыі сваіх паплечнікаў і будзе зацікаўлены ў роспуску парламента і правядзенні новых выбараў.

Пакуль Бепе думае і гадае, з кім яму блакавацца або не блакавацца, Еўропа думае, як ёй адгукнуцца наогул вынікі выбараў у Італіі. Трыумф еўрафобскіх кааліцыі Берлусконі і «Руху пяці зорак» (Грыла заклікае правесці плебісцыт аб выхадзе Італіі з еўразоны) здольныя паўплываць на настроі выбаршчыкаў у іншых краінах Еўропы. У сувязі з гэтым аналітыкі баяцца прагрэсу еўрафобскіх партый на выбарах у Еўрапейскі парламент у наступным годзе. Паводле апошніх апытанняў, якія прыводзіць газета «Le Monde», прыблізна 28 працэнтаў еўрапейцаў крытычна настроеныя да еўраструктур.

А вось брытанская «The Guardian» лічыць, што выбары 25 лютага паставілі крыж на палітыцы жорсткай эканоміі, якая ў выпадку яе працягу можа пахаваць еўрапейскі праект. Цікавы ў гэтым плане артыкул у іспанскай «El Pais», які заклікае еўрапейскіх лідараў зразумець патэнцыял грамадзянскага пратэсту кшталту M5S і працаваць з ім, а не цурацца яго, як банды еўрафобаў. Гэтыя новыя сацыяльныя рухі, на думку выдання, больш звязаныя з праблемамі простых людзей, паколькі арганізаваныя па прынцыпу мясцовых камітэтаў.

Нягледзячы на ўвесь знешні драматызм сітуацыі, нельга пагадзіцца з публікацыяй у газеце «СБ Беларусь Сегодня», якая ў сваім артыкуле, прысвечаным Італіі, у чарговы раз прагназуе надыходзячы армагедон еўразоны і Еўрасаюзу. Не выключана, што правыя сенатары перабягуць да левых, паколькі перспектывы ў лагера Берлусконі пакуль не вызначаныя. Патэнцыйнымі перабежчыкамі могуць стаць і сенатары ад «Руху пяці зорак». Нарэшце, 27 лютага прайшлі перамовы лідараў асноўных фракцый новага парламента, якія дамовіліся знайсці агульнае кампраміснае рашэнне па выхаду з урадавага крызісу. Хутчэй за ўсё, неўзабаве будзе абраны нейкі тэхнічны прэм'ер. А паралельна партыі распрацоўваюць новы закон пра выбары, каб перастрахавацца ў будучым ад падобнага цяперашняму паралічу ўлады. Прэса дружна піша пра тое, што мы знаходзімся на пачатку працэсу нараджэння Трэцяй італьянскай рэспублікі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ХАРУХІКА КУРОДА



Новы кіраўнік банка Японіі абяцае перамагчы шматгадовую дэфляцыю. Цяпер Харыка Курода ўзначальвае Азіяцкі банк развіцця. Прэм'ер-міністр Японіі Сіндзо Абэ павінен афіцыйна высунуць кандыдатуру 68-гадовага Куроды ў сярэдзіне тыдня, пасля чаго яна павінна быць ухвалена парламентам, піша «MarketWatch».

Курода, які ў 1999–2003 гадах займаў пасаду намесніка міністра фінансаў, вядомы як крытык палітыкі Банка Японіі. У інтэрв'ю ён казаў, што, калі яму прапануюць узначаліць ЦБ, ён павялічыць аб'ём і пашырыць наменклатуру актываў, якія набывае Банк Японіі. У прыватнасці, паводле яго слоў, гэта могуць быць карпаратыўныя аблігацыі і нават акцыі. «Існуе велізарная прастора для манетарнага змякчэння», — казаў ён, у прыватнасці, у інтэрв'ю «The Wall Street Journal». Курода лічыць рэальным дасягнуць 2-працэнтнай інфляцыі на працягу 2 гадоў, перамогшы тым самым шматгадовую дэфляцыю.

У той жа час афіцыйных пацверджанняў хуткага вылучэння Куроды на пасаду кіраўніка Банка Японіі пакуль няма. Прызначэнне новага кіраўніка ЦБ — частка перадвыбарных абяцанняў прэм'ера, які хацеў прымусіць Банк Японіі заняць больш актыўную пазіцыю ў барацьбе з дэфляцыяй і ў стымуляванні росту эканомікі. Цяперашні кіраўнік ЦБ сыходзіць са сваёй пасады 19 сакавіка.

### ЛЕАНІД КУЧМА



Экс-прэзідэнт Украіны стаў часткай глабальнай інтрыгі, якую вядзе ўлада супраць Юліі Цімашэнка. Генпракурор Украіны Рэнат Кузьмін стаў актыўна капацца ў гісторыі забойства журналіста Георгія Гангадзе, за якое нядаўна судзілі генерала Пукача. Непасрэдна Кузьмін дае зразумець, што да справы можа быць прыцягнуты і Кучма, які быў непасрэдным кіраўніком Пукача. На думку журналістаў, такі нездаровы інтарэс да былога гаранта звязаны са справай Яўгена Шчэрбаня (данецкі губернатар, забіты ў 1996 годзе). Цяпер у судзе слухаецца справа пра тое, што забойства губернатара замовіла Юлія Цімашэнка. Аднак доказаў пракурору яўна не хапае, а галоўнаму сведку абвінавачвання, былому бандыту, увогуле ніхто не верыць, паколькі ён дасюль праходзіць па незачыненай справе пра гандаль зброяй і цалкам залежыць ад улады. А вось сведчанні Леаніда Кучмы супраць Цімашэнка маглі б сапраўды быць моцным аргументам. Пакуль Кучма не паддаецца на шантаж. Праўда, у Януковіча ёсць яшчэ адзін ход, каб прымусіць Леаніда Данілавіча сведчыць супраць Лэдзі Ю. Як вядома, ягоны цесць — вядомы ўкраінскі алігарх Віктар Пінчук, якога лёгка можна абвінаваціць у якіх-небудзь эканамічных злачынствах. Калі ўсё гэта праўда, то застаецца толькі аддаць належнае маральным прынцыпам Леаніда Кучмы. Як вядома, ён і Цімашэнка вельмі ненавідзелі адзін аднаго, аднак былы прэзідэнт адмаўляецца кіравацца асабістымі матывамі.

### ДЗІТРЫХ КІТНЕР

Кандыдат на пасаду прэзідэнта ФРГ у 2009 годзе, адзін з кіраўнікоў партыі Левыя ў зямлі Ніжняя Саксонія памёр на мінулым тыдні ва ўзросце 77 гадоў. Гэта выклікала заўважны рэзананс як у палітычных, так і культурных колах. Справа ў тым, што Кітнер быў, напэўна, самым вядомым акторам палітычнага кабарэ ў Германіі. Ён пачаў весяліць публіку на палітычныя тэмы яшчэ студэнтам універсітэта. У 1960 годзе разам з іншымі студэнтамі Кітнер заснаваў першае кабарэ, каб прафесійна займацца акторскай дзейнасцю. Яго зорны час прыйшоўся на 1960–1970-я гады, калі яго туры па ФРГ збіралі больш за мільён чалавек. Лічыцца, што адзін з яго канцэртаў у Гановеры супраць росту коштаў на транспарт прымусіў улады адмовіцца ад такога кроку. Кітнер таксама праславіўся ў той час сваімі перформансамі супраць закону аб надзвычайным становішчы, які дыскутаваўся ў ФРГ. Так, Дзітрых быў арыштаваны за тое, што хадзіў па гораду ў вайсковай касцы, што стала нацыянальнай падзеяй. Цікава, што дзейнасць Кітнера вельмі падабалася кіраўніцтву ГДР. Кітнеру нават дазвалялі выступаць на пляцоўках ГДР. Сімпатыі да ўсходняй Германіі каштавалі яму партбілета партыі сацыял-дэмакратаў. Праўда, у Кампартыю ён таксама адмовіўся ўступаць, аддаўшы перавагу працы ў рэдакцыі аднаго з пацыфісцкіх часопісаў.



ЦІКАВА

# ХТО ПАЛЯВАЎ НА САВЕЦКІХ АФІЦЭРАЎ У БАБРУЙСКУ?

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Заканчэнне Вялікай Айчыннай вайны суправаджалася ўсплёскам злачыннасці. Яе спарадзілі не толькі голад і галеча. Па-першае, пасля сталінскай амністыі ў гонар перамогі над Германіяй на волю з лагераў выйшлі тысячы крымінальнікаў. Па-другое, у розныя банды і шайкі сцякаліся натоўпы былых паліцаяў, старастаў, дэзерціраў. Не стаў выключэннем і Бабруйск.**


Капітан Аляксандр Прэз


1 мая 1944 года ў Бабруйску. Бачна эмблема Саюза барацьбы супраць бальшавізму



Парад савецкіх войскаў у Бабруйску, жнівень 1945 года


Жонка забітага бандытамі Аляксандра Прэза з дочкамі каля труны мужа, 14 кастрычніка 1946 г.

Яшчэ ў чэрвені 1944 года на стол Сталіну лёг даклад Берыі, у якім, у прыватнасці, паведамлялася, што ў Бабруйску ў лютым 1944-га быў створаны «Саюз барацьбы супраць бальшавізму» (СБСБ). У яго задачы ўваходзіла барацьба з партызанамі, арганізацыя ўзброеных атрадаў, стварэнне так званых «абарончых вёсак», вядзенне агітацыйнай і прапагандысцкай працы.

У Маскве, безумоўна, ведалі, што на чале СБСБ стаяў заўзяты антыкамуніст Міхаіл Актан (сапраўднае прозвішча Натко). Гэта быў былы салдат РККА, які восенню 1941-га перайшоў на бок немцаў. Служыў у 612-й роце прапаганды пры 2-й нямецкай танкавай арміі. У 1942 годзе быў завербаваны СД у якасці агента. Пазней стаў рэдактарам нацысцкай газеты «Речь». У ліпені 1943-га выехаў з рэдакцыяй у Бабруйск.

Кіраўнік Цэнтральнага штаба партызанскага руху Панцеляймон Панамарэнка ацэньваў дзейнасць Міхаіла Актана як вельмі небяспечную ў ідэалагічным плане. Па дадзеных ЦШПР, Актан узначальваў Бабруйскае абласное аддзяленне СБСБ, якое па сваёй сутнасці адыгрывала ролю фактычнага Цэнтральнага камітэта гэтай пранацысцкіх арганізацыі.

Дзякуючы Актану-Натко СБСБ стаў радыкальна антысеміцкай арганізацыяй і разгарнуў актыўную прапагандысцкую дзейнасць. Эмблемай «Саюза барацьбы супраць бальшавізму» быў абраны Георгій Перамоганосец і Георгіеўскі Крыж. Буйной акцыяй СБСБ стала адкрыццё дзіцячага прытулку на 700 дзяцей. 1 красавіка 1944 года было абвешчана пра стварэнне «добраахвотніцкіх ахоўных дружын», у якія пад уплывам прапаганды досыць актыўна ўступалі байцы і камандзіры расквартараваных у раёне Бабруйска ўсходніх батальёнаў. 5 мая 1944 года на зборы прапагандыстаў «народных дружын СБСБ» Міхаіл Актан выступіў з праграмнай прамовай.

Усю гэтую калабарацыйную валтузню давялося спешна згарнуць пасля распачатай летам 1944-га савецкай наступальнай аперацыі «Баграціён». 29 чэрвеня 1944 года быў вызвалены Бабруйск. Некаторым рускім нацыяналістам удалося збегчы на захад. Па адной інфармацыі, Актан-Натко быў схоплены чырвонаармейцамі ў вызваленым Бабруйску і расстраляны. Па другой, яму ўсё ж удалося ўратавацца. Большасць сяброў СБСБ падалася ў лясы.

У жніўні 1945-га ў Бабруйску адбыўся ўрачысты парад савецкіх войскаў. Здавалася, што гора пакінула гэтыя мясціны назаўсёды. Але хутка з Бабруйска ў Мінск паляцелі паведамленні аб частых нападах на афіцэраў і вайскоўцаў савецкай арміі. Невядомыя злачынцы высочвалі вайскоўцаў і, па-зверску расправіўшыся з імі, забіралі іх ваенную форму, асабістыя рэчы, дакументы і ўзнагароды. У МДБ меркавалі, што ім давядзецца сустрэць актыўны супраціў розных антысавецкіх элементаў на захадзе Беларусі, але мала хто думаў, што і на ўсходзе рэспублікі будзе неспакойна.

У кастрычніку 1946 года са службовым заданнем у Бабруйск быў накіраваны франтавік, капітан-артылерыст, намеснік начальніка артылерыйскага складу №3452 у Баранавічах Аляксандр Прэз. Гэты чалавек пачаў вайсковую службу яшчэ задоўга да вайны на артылерыйскім палігоне ў Крупках. У 1938 годзе ён цудам пазбег арышту па даносе аб «утойванні кулацкага паходжання». У чэрвені 1941 года Аляксандр Іосіфавіч удзельнічаў у эвакуацыі палігона. Потым было адступленне. Узімку 1941-га браў удзел у абароне Масквы, за што быў узнагароджаны двума ордэнамі «Чырвонай Зоркі» і медалём «За абарону Масквы». У баях ва Усходняй Прусіі ў 1944 годзе быў паранены. Вайну скончыў у Кёнігсбергу.

У кастрычніцкія дні 1946 года капітан Прэз прыбыў у Бабруйск разам з салдатам суправаджэння. Горад быў практычна ўвесь разбураны. На начлег вайскоўцы спыніліся ў адным з ацалелых прыватных дамоў. На наступны дзень, выканаўшы заданне камандавання, капітан адпусціў байца, а сам зайшоў у афіцэрскую сталовую.

Бліжэй да вечара салдат, занепакоены адсутнасцю афіцэра, забіў трывогу. Цела капітана Прэза знайшлі ў руінах аднаго з бабруйскіх дамоў. Следства паказала, што афіцэр быў забіты стрэлам у твар. Нападаючыя забралі форму, асабістыя і службовыя дакументы, грошы і ўзнагароды.

Жонка забітага Ніна Пятроўна Герасько пасля ўспамінала, што следчы ваеннай пракуратуры, які займаўся справай аб забойстве капітана Аляксандра Прэза, паведаміў ёй, што гэта быў ужо не першы выпадак нападу на савецкіх афіцэраў у Бабруйску. За некалькі гадзін да трагедыі капітана бачылі ў сталовай у кампаніі невядомага малодшага афіцэра.

Інфармацыя аб дзейнасці арганізаванай банды з былых паліцаяў пад Бабруйскам не на жарт насцярожыла савецкія спецыяльныя органы. З Масквы ў Мінск прыйшоў загад аб пачатку высылкі з Бабруйскай вобласці (такая існавала ў перыяд з 1944 па 1954 гады) сем'яў тых, хто ў час вайны служыў немцам. Не забыліся і пра ўдзельнікаў «Саюза барацьбы супраць бальшавізму», якіх, паводле інфармацыі МДБ, было нямала ў бабруйскіх лясах. Міністр унутраных спраў БССР Сяргей Бельчанка крычаў на сваіх падначаленых: «У Заходняй Беларусі ёсць умовы для існавання бандфармаванняў, асабліва нацыяналістычнага кшталту. А тут узброеная банда дзейнічае ў былым партызанскім раёне. Даю вам пару дзён для прыняцця рашэння аб спосабах ліквідацыі гэтых бандытаў».

Былі здагадкі, што банда на самай справе з'явілася створаным немцамі атрадам для правядзення арганізаваных дыверсій у тыле савецкіх войскаў. А гэта азначала, што міліцыі і вайскоўцам супрацьстаялі не звычайныя крымінальнікі, а добра падрыхтаваныя дыверсанты.

Падчас аперацыі па дэпартацыі сем'яў былых паліцаяў у рукі МДБ БССР трапіў сваяк аднаго з кіраўнікоў банды. Гэтага чалавека ўдалося завербаваць і накіраваць у лес з заданнем вывесці МДБ на бандытаў. Прыкрыццём для «крата» была легенда пра тое, што ён збег ад міліцыі падчас аперацыі па высылцы. Неўзабаве агент апынуўся ў атрадзе бабруйскіх «лясных братоў».

У выніку агент «Сваяк» навёў супрацоўнікаў савецкіх спецыяльных органаў на тайны прытулак бандытаў. Бой з імі быў жорсткі. Пасля следчы ваеннай пракуратуры раскажа жонцы капітана Прэза, што кіраўнікі банды адстрэльваліся да апошняга патрона. Ім удалося параніць некалькіх салдатаў унутраных войскаў, але ў выніку ўсе яны былі знішчаны. Пры бандытах былі знойдзены дакументы на імя забітых імі савецкіх афіцэраў, дый апранутыя злачынцы былі ў афіцэрскую форму, знятую, па ўсёй бачнасці, з іх ахвяр.

Цела капітана Аляксандра Іосіфавіча Прэза даставілі ў Баранавічы і пахавалі ў брацкай магіле ў цэнтры горада. Пасля камандзіроўкі з Бабруйска гэты чалавек павінен быў атрымаць маёрскія пагоны. Прадстаўленне на прысваенне чарговага звання ўжо ляжала ў штабе.

**Аўтар выказвае шчырую падзяку дачцэ Аляксандра Прэза Людміле Аляксандраўне Бядрыцкай і яе сыну Віталю за прадстаўленыя матэрыялы.**


Смерть большевизму! Жизнь народу!

ПРИСЯГА
соратника Союза борьбы против большевизма.

Вступая в ряды соратников Союза борьбы против большевизма, даю торжественную клятву верности Освободителю народов России и Об'единителю Новой Европы Адольфу ГИТЛЕРУ.

Я об'являю себя непримиримым и последовательным врагом иудо-большевизма во всех его проявлениях.

Я обязуюсь ставить интересы народа и общей борьбы против иудо-большевизма и его союзников выше личных.

Я признаю программу и устав Союза и обязуюсь им следовать.

Я обязуюсь беспрекословно подчиняться правилам общесоюзной дисциплины.

Дата. 23/IV 44 г. Подпись. [illegible]

Прысяга СБСБ

ІМЁНЫ

# РЭНЕСАНС, БЕЛАРУСЬ І ПАУЛЬ ХОФХАЙМЕР

Аляксей ХАДЫКА

**Паўль Хофхаймер (1459–1537) — адзін з самых вядомых у Еўропе XVI стагоддзя арганістаў і кампазітараў. Ён адносіўся да нямецкіх арганістаў-«каларыстаў», музыкаў, што надавалі гучанню сваіх твораў асаблівую афарбоўку коштам разнастайных арнаментальных пасажаў, запазычаных з традыцый італьянскай музыкі.**



Альбрэхт Дзюрэр. Партрэт Пауля Хофхаймера (пачатак XVI ст.)

Прыгадаць імя Хофхаймера дапамагаюць дзве падставы. На Youtube з'явіўся запіс яго «Salve Regina» — гімна Багародзіцы, які спалучыў у грыгарыянскай традыцыі харавыя часткі з музыкай: праўда, у дадзеным выпадку, як часцей практыкуецца сёння, гучыць выкананне арганнай часткі. Запіс зроблены Юрасём Габрусем на выдатным інструменце царквы Ёргрытэ ў Гётэборгу, адным з рэдкіх захаваных арганаў тыпу паўночнага нямецкага барока.

Малады музыка ў 2012 годзе выканаў бакалаўрэат у гэтым шведскім горадзе, стажыраваўся ў Нямеччыне ў Брэмене і Гамбургу, у тым ліку граючы на знакамітым бахаўскім аргане царквы св. Якаба. Але Хофхаймер выканаўцу, як і нас, цікавіць яшчэ і эпізодам з яго біяграфіі 1515 года, калі ў Вене Габсбургі і Ягелоны заключалі вялікае палітычнае пагадненне, вырашаючы лёс Еўрапейскай будучыні.

Хофхаймер — адзін з найстарадаўніх і цікавых у музычным плане кампазітараў, чые творы выконваюцца да нашага часу. Адлюстроўваючы ўзровень яго славы, выявы майстра захаваліся ў выяўленчым мастацтве — партрэтны твор геніяльнага Альбрэхта Дзюрэра і гравюра, на якой музыка паказаны ў вазку, граючы на невялікім перасоўным аргане-пазітыве, мяхі якога раздзімае асістэнт. Так, як адбывалася ў час урачыстасцяў на вольным паветры.

Народжаны ў паўднёвай Нямеччыне ў Радштаце побач з Зальцбургам, Хофхаймер пачаў сваю кар'еру пры двары герцага Сігізмунда Цірольскага ў Інсбруку ў 1478 годзе. Ён зрабіў настолькі моцнае ўражанне на гаспадара, што праз 2 гады атрымаў пажыццёвы тытул прыдворнага музыкі. Творчы шлях вёў яго затым на саксонскі двор Фрыдрыха Мудрага, у Пасаў, Аўгсбург, але вяршыняй кар'еры сталася служба арганістам у імператара Свяшчэннай Рымскай Імперыі нямецкага народа Максіміліяна I Габсбурга з 1589 года. Надзвычай запатрабаваны музыка рэгулярна прыязджаў на венскі двор з Аўгсбургу, дзе жыў з 1507 года, а пазней Зальцбургу, у якім да самай смерці заставаўся арганістам катэдры.

Звышадораны імправізатар, Хофхаймер мог, не паўтараючы мелодыю, граць гадзінамі. «Здзіўляе не тое, як акіян збірае воды ўсіх рэчак, як тое, дзе гэты творца чэрпае разнастайнасць тэмаў сваёй музыкі», — сказаў пра Хофхаймера адзін з даследчыкаў. Таленавіты як музыка, ён рэалізаваўся і на шляху настаўніцтва: амаль усе выбітныя арганісты нямецкай школы часоў барока шліфавалі сваё майстэрства праз вучняў і наступнікаў вялікага імправізатара.

Захаваўся шэраг ягоных арганных п'ес, але поліфанічныя мелодыі Хофхаймера дзякуючы іх вялікай папулярнасці шырока ўвайшлі ў музычную спадчыну Германіі ў пераўвасабленні да 3–4-галосных нямецкіх песняў або твораў для лютні.

Між тым, у 1515 годзе ў Вене вырашаліся лёсы Еўропы. Пасля Аршанскай бітвы 1514 года і перамогі войск ВКЛ над Масковіяй, імператар Максіміліян I Габсбург сустракаўся з Жыгімонтам Старым Ягайлавічам, каб пераарыентаваць сваю палітыку з саюзу з Масквой і Васілём III на саюз з Вільняй і Варшавай. Вырашаўся і лёс Прусіі, ад падтрымкі памкненняў да незалежнасці кіраўніка якой Альбрэхта Гогенцолерна ад польска-літоўскіх Ягайлавічаў Максіміліян адмовіўся. І, нарэшце, прысутнасць Уладзіслава II Ягайлавіча, караля Чэхіі і Венгрыі і роднага брата Жыгімонта Старога, прадугледжвала заключэнне стратэгічнай дамовы паміж Ягайлавічамі, уладарамі Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, і Габсбургамі, пра ўзаемнае перайманне спадчынных прастолаў у выпадку выгасання дынастый — шляхам міждынастычных шлюбаў.

Менавіта таму, калі сын Уладзіслава II Людвік II Ягайлавіч (Лайаш II у венгерскай традыцыі) загінуў, не пакінуўшы спадчыннікаў, у крывавай бітве з Асманскім турэцкім войскам пад Мохачам у 1526 годзе, пасасталая вольнай частка Венгрыі і Чэхія адышлі Габсбургам — аж на 392 гады. Гістарычны момант сустрэчы



Невядомы мастак. Пауль Хофхаймер на вазку з арганам-пазітывам. Гравюра пач. XVI ст.

трох манархаў (а перамовы цягнуліся з 15 па 26 ліпеня 1515 года) на вольным паветры адлюстраваў у XIX стагоддзі вялікі жывапісец польскай гісторыі Ян Матэйка. Але засталася і «дыпламатычная» гравюра самога Альбрэхта Дзюрэра 1515 года, дзе паказаны і 3 дарослыя каралі, і юнакі Людовік II з унучкай імператара Максіміліяна Марыяй. Шлюб апошніх у 1522 годзе, паводле прынятых у Вене рашэнняў, злучыў частку спадчыны Ягайлавічаў з Габсбургамі.

Жыгімонт Стары застаўся ў гісторыі як асоба, не абыякавая да прыгожых мастацтваў, чые мецэнацкія памкненні выявіліся яшчэ перад шлюбам з італьянкай Бонай Сфорцай. Праз чэшска-венгерскі двор брата Уладзіслава II да Жыгімонта ў Польшчу і Літву траплялі італьянскія скульптары і архітэктары, у тым ліку дойліды знакамітага Вавельскага палаца. Нельга лічыць выпадковым з'яўленне апякунчых грамат, што выдаў Жыгімонт Францішку Скарыну. Вось і ў стаўленні да музыкі тонкая натура польска-літоўскага валадара пакінула свой след. За складанымі паваротамі дыпламатычных перамоваў Максіміліян I разам з Жыгімонтам выставілі дакумент, у якім адзначылі музыку, чыё майстэрства лашчыла іх слых падчас высокай сустрэчы. Так Пауль Хофхаймер зрабіўся рыцарам, шляхціцам, а таксама «Першым Арганістам Імператара».

Яшчэ раз прыглядаючыся да гравюры, дзе мы бачым Хофхаймера на вазку з арганам-пазітывам, і слухаючы яго музыку, мы можам перанесціся думкамі і ўяўленнямі да лёсавызначальнай венскай сустрэчы імператараў. У той час, калі воля перадапошняга Ягайлавіча, Жыгімонта Старога, звернутая не толькі да палітыкі, але і да мастацтва, закладала асновы рэнесансавай гуманістычнай культуры ў Польшчы, Беларусі і Літве.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# У ГОД БЕРАЖЛІВАСЦІ І «ЗУБЫ НА ДАЛОНІ»

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**24 лютага на сядзібе БНФ адбылася прэзентацыя чарговага, 21-га па ліку (эй, дзе вы, прадстаўнікі Кнігі рэкордаў Гінэса!) альбому «Зубы на далоні» легендарнага беларускага барда Андрэя Мельнікава.**

Як адзначыў перад пачаткам імпрэзы ініцыятар і менеджар праекта Алесь Мазанік, задума дапамагчы вядомаму барду выдаць дыск са студыйнымі запісамі належала таксама і грамадскай дзяячцы Валерыі Чарнаморцавай. «Разам з Андрэем, — распавядае Алесь, — мы склалі праграму з новых песень, стварылі альбомную канцэпцыю і выдалі наклад дыска «Зубы на далоні», які цяпер усе ахвотныя могуць набыць на сядзібе БНФ (Чарнышэўскага, 3).



Падчас працы над альбомам Андрэя Мельнікава «Зубы на далоні» ў нас саспеў план выдання DWD-MP3-дыска, які б абагульніў усю папярэднюю творчасць барда, уключаў лепшыя песні, што былі выдадзеныя на папярэдніх 20 альбомах у Беларусі і ў Польшчы».

Прэзентацыю свайго новага альбома Андрэй Мельнікаў пабудаваў у форме «падарожжа» па трэках новага дыска, з філасофска-рэлігійнымі абагульненнямі, цікавымі назіраннямі і гісторыямі з асабістага жыцця. За расповедамі ішлі песні, за песнямі — успаміны, словы ўдзячнасці і павагі тым сябрам, якія дапамаглі здзейсніцца яго мары.

Ну а тыя, хто ў гэты выходны завітаў на сядзібу БНФ, з задавальненнем паслухалі канцэртныя варыянты новых песень Андрэя. Як і альбом, канцэрт распачаўся рэтраспектыўнай песняй «Калі ты быў малады», якую бард не так даўно ўпершыню выставіў у інтэрнэт і так зазнаў яго перавагі. Агульную ўвагу слухачоў прыцягнула і кампазіцыя на гістарычную тэму «Машэка», у якой, як зазначыў аўтар, можна заўважыць алюзіі на творчасць Уладзіміра Караткевіча, а таксама вытокі нацыянальнага характару беларусаў. Але на дыску прадстаўлены не толькі аўтарскія творы Андрэя Мельнікава, але і песні на словы польскага барда часоў «Салідарнасці» Яцэка Качмарскага ў сваім і Андрэя Хадановіча перакладах («Касандра», «Разбітыя атрады»), класіка беларускай літаратуры Уладзіміра Караткевіча («Агеньчык»), паэта Анатоля Сыса («Песня пра сына»). Гэтыя і іншыя песні Андрэя Мельнікава яскрава прагучалі ў гэты дзень як адзнака вартасці творчасці барда і яго новага альбома.

Аўтарам на прэзентацыі была выканана і трошкі спрэчная песня «Янка Купала», якая спявалася на мелодыю савецкага хіта «Что тебе снится, крейсер «Аврора»? Слухачы сустрэлі твор прыхільна, засведчыўшы, што пачуццё гумару іх не пакінула. Настальгія па месцах, з якімі звязаны старонкі біяграфіі Андрэя Мельнікава (а гэта Ворша і Гомель), аўтар узнавіў у песнях з настальгічнай мелодыкай — «Ворша» і «Раён Сельмаш». Але сапраўднае эмацыянальнае ўзрушэнне чакала слухачоў, калі загучала музычная кампазіцыя А. Мельнікава «Літва» на верш Адама Міцкевіча з паэмы «Пан Тадэвуш» у перакладзе Наталлі Арсенневай. Гэты твор і на дыску можна лічыць праграмным.

Менеджар праекта і выдавец дыска Андрэя Мельнікава «Зубы на далоні» Алесь Мазанік нагадаў, што гэтая прэзентацыя адбываецца ў рамках дня памяці выдатнага беларускага дзеяча нацыянальнага Адраджэння XX стагоддзя, гісторыка Міхася Чарняўскага, які не так даўно адышоў ад нас.

РОК

# МУЗЫЧНЫ МОСТ СІЭТЛ — МІНСК: У ПАМЯЦЬ КУРТА КАБЭЙНА

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**У шматлікіх рок-клубах, на канцэртных пляцоўках гурты, якія арыентуюцца на вынайдзены «NIRVANA» альтэрнатыўны музычны стыль grunge, успаміналі незабыўныя кампазіцыі Курта Кабэйна і яго каманды. 20 лютага 1967 года легендарны музыкант, кампазітар і мастак з'явіўся на свет.**



Курт Кабэйн



На сцэне гурт «VERSUS 7»

Хваля агульнага піетэту і музычных успамінаў пачынае свой рух з роднага горада Курта Кабэйна — Сіэтла і ідзе далей па ўсіх кантынентах. Вось ужо некалькі гадоў гэтая сусветная музычная «хваля» мае свой працяг і ў Беларусі. Тут таксама ладзяцца канцэрты-прысвячэнні Курту і яго музыцы, пры тым найбольш прадстаўнічым можна лічыць штогадовы фэст-трыб'ют «NIRVANA», які адбываецца ў сталічным клубе «RE:PUBLIC».

У гэтым годзе фэст зноў сабраў прыхільнікаў музыкі grunge, усіх тых, хто памятае ролю Курта Кабэйна ў сусветнай рок-музыцы, у каго да гэтага часу на паліцах як самы дарагі артэфакт пачатку 1990-х гадоў застаецца любімы альбом гэтай каманды «Nevermind».

Як паказвае вопыт мінулых фэстаў-трыб'ютаў Курту Кабэйну, на іх гучаць, бадай, адны і тыя ж кампазіцыі, але найбольш цытаванымі застаюцца хіты кшталту «Smells Like Teen Spirit», «School», «Come As You Are», «Lithium» і іншыя творы. Для нас жа застаецца важным тое, як беларускія рок-музыканты розных стылявых накірункаў інтэрпрэтуюць музычную спадчыну Курта Кабэйна і гурта «NIRVANA» ў цэлым.

Ці гэтыя спробы маюць мастацкую вартасць, ці не сталі чужароднымі музычныя творы гэтай каманды маладым беларускім слухачам — на гэта і павінен быў даць адказ гэты фэст-трыб'ют з удзелам беларускіх альтэрнатыўных каманд. Распачаць гэты агляд было даручана гурту «VERSUS 7», які выконвае жорсткі nu-metal з разнастайнымі стылістычнымі дамешкамі. Вось такая «лёгкая» стылістычная размытасць у бок альтэрнатывы і дазволіла «VERSUS 7» за кароткі час захапіць увагу прыхільнікаў grunge і прадэманстраваць увесь патэнцыял кабэйнаўскіх кампазіцый у «металічным прачытанні».

Трэба адзначыць, што тут вельмі вялікую ролю адыгралі вакалісты гурта Арцём і Ігар, якія, дэманструючы розныя экстрэмальныя вакальныя прыёмы з арсеналу nu-metal, не забывалі пра тое, што песні гурта «NIRVANA» — гэта яшчэ і заўсёднае шоў, у якім няма месца фальшу і няшчырасці. Асабліва спадабалася слухачам metal-інтэрпрэтацыя згаданай раней кампазіцыі «School», якая была ўспрынята прыхільнікамі Курта з такім энтузіязмам, што здавалася, нібы «VERSUS 7» — самая яркая зорка гэтага трыб'юта Курту Кабэйну.

> Вялікую цікавасць на гэтым трыб'юце ўяўляла цяперашняя творчасць гурта «ZM99», які апошнім часам не так часта выходзіць на канцэртныя пляцоўкі і фэсты

Далей на сцэне клуба «RE:PUBLIC» запанаваў grunge ад маладзечанскага рок-гурта «Happy Face». Памятаю, што гэтая каманда ўдала дэбютавала на гістарычным зборніку «Вольныя танцы: альтэрнатыва_by» (2001 г.) з беларускамоўнай кампазіцыяй «Рай», а потым актыўна ўключылася ў стварэнне нацыянальнага сегмента ў рэгіянальным рок-руху. Але прайшоў час — і ад былых прынцыпаў амаль нічога не засталося. Гэта выявіў сэт «Happy Face» на гэтым фэсце: ні слоўца на беларускай мове, быццам у Маладзечна зусім забыліся, на якой мове гавораць іх землякі і не ў гэтым горадзе праводзіцца самы буйны ў краіне фестываль беларускай песні і паэзіі. Вось такія невясёлыя думкі апанавалі з нагоды ўбачанага.

Тым часам з фестывальнай сцэны ўперамешку гучалі каверы на песні Курта Кабэйна і «NIRVANA», кампазіцыі гурта «Happy Face» з іх новага дыска «Ягнята-хакі», а таксама з адроджанага ў лічбавым фармаце альбома «Grunge». Слухачы імкнуліся ўсімі сіламі падтрымаць гасцей з Маладзечна, але іх сэт па напалу эмоцый значна саступаў папярэднім выканаўцам — гурту «VERSUS 7».

А вось удзельнікі гурта «Голая манашка», якія апошнім часам значна актывізаваліся ў сваёй канцэртнай дзейнасці, вырашылі засяродзіцца на псіхалагізме і драматызме вядомых песень гурта «NIRVANA». Гэтаму садзейнічала пранікнёная вакальная манера саліста «Голай манашкі» Фёдара Жывалеўскага (а таксама і вядучага гэтага фэсту), кантраст гучання акустычнай гітары Ф. Жывалеўскага і электрагітары В. Ярмоленкі, падбор твораў гурта, якія гучалі ў гэты дзень. Музыканты «Голай манашкі» на фэсце выканалі беларускамоўны каверы на «About A Girl», «School», прадставілі сваю версію «Кулі-дуры» расійскага гурта «Гражданская оборона», новыя аўтарскія кампазіцыі. Гэта былі сапраўдныя «свежачкі», і Фёдар у час іх выканання чытаў тэксты па паперцы (на фота), што не перашкодзіла музыкантам напоўніцу прадставіць слухачам патэнцыял новых твораў.

Як на мой густ, дык вялікую цікавасць на гэтым трыб'юце ўяўляла цяперашняя творчасць гурта «ZM99», які апошнім часам не так часта выходзіць на канцэртныя пляцоўкі і фэсты. Свой сэт гурт распачаў каверам на песню «NIRVANA» «About A Girl», якую выканалі салістка Зоя Сахончык і яе муж, а па сумяшчальніцтву — гітарыст гурта Уладзімір Сахончык. Далей музыканты прадставілі іншыя каверы на песні гурта «NIRVANA», новыя рускамоўныя кампазіцыі, якія яшчэ больш аддалена імітуюць музыку «ZM99» часоў выхаду іх альбома «ГОСТ ГУСТА ДУСТУ. Частка 1» 2007 года. Толькі аддалена той перыяд творчасці нагадала слухачам выкананая на фэсце хітовая кампазіцыя «Беларускі мегабой». Здаецца, што апошнім часам у гурце разгортваюцца нежартоўныя спрэчкі наконт далейшага музычнага шляху каманды, моўных і стылявых прыхільнасцяў выканаўцаў.

Пажадаем вопытным музыкантам з гурта «ZM99» з як мага меншымі стратамі пераадолець цяжкасці і напоўніцу раскрыць свой музычны і кампазіцыйны талент у беларускім музычным кантэксце. Толькі трэба ўлічыць, што Зоя, і гэта прызналі шматлікія музычныя крытыкі, — выдатная рок-паэтка, тэксты якой арганічна спалучаюцца з рытмамі гурта «ZM99». І яе талент як арыгінальнага беларускамоўнага аўтара нельга ігнараваць і запаўняць рэпертуар кан'юнктурным матэрыялам з надзеяй на прызнанне ў суседняй краіне. Пад гэтыя развагі фэст падыходзіў да свайго лагічнага завяршэння.

З незразумелых прычын ад удзелу ў фэсце-трыб'юце Курту Кабэйну адмовіўся гурт «BLAGI MAT!!!». Таму на сцэну выйшаў і ў добрым стылі завяршыў фэст малады і перспектыўны гурт «Straightroads», давёўшы слухачам тое, прынцыпы і музычныя ідэі «Пакалення X» не страчаныя.

ПОШТА

# ШТО ТАКОЕ «БУЛЬБАШ»?

Яўген ГУЧОК

**З'явілася інфармацыя, што беларускі завод вінаградных він, магчыма, будзе насіць назву «Бульбаш».**

Брэнд, шырока вядомы па шматлікіх паліцах віна-гарэлачных крам і аддзелаў, застаўленых бутэлькамі з гарэлкай з аднайменнай назвай. І яшчэ скандальным намерам пабудовы рэстараннага комплексу «Бульбаш-хол» побач з Курапатамі.

Сёння гэтыя назвы выклікаюць вострыя дыскусіі, асабліва ў незалежных СМІ і інтэрнэце. Адны бачаць у іх абразу сваёй чалавечай, нацыянальнай і грамадзянскай годнасці, другія — разыгрываюць нібыта нейтралітэт, трэція — абыякавыя. Але ніхто пакуль не нагадаў, дзе, у якім асяроддзі ўзнікла гэта азначэнне — «бульбаш».

А ўзнікла яно ў турэмна-лагерна-блатным свеце і пазней было зафіксавана ў «Словаре тюремно-лагерно-блатного жаргона (Речевой и графический портрет советской тюрьмы)», што быў выдадзены ў 1992 годзе выдавецтвам «Края Москвы». Аб'ём выдання — каля паўтысячы старонак. На трыццаць пятай старонцы гэтага выдання і значыцца радок з тэкстам: «Бульбаш — белорус».

Не станем тут падрабязна разбірацца ў гістарычным (каланіяльным — з кацярынінскіх часоў) паходжанні (этымалогіі) гэтага тэрміну, але маем усе падставы сцвярджаць, што тыя, хто спрычыніўся да пабудовы рэстараннага комплексу «Бульбаш-хол», як і тыя, хто спойвае людзей «Бульбашом», з'яўляюцца стоадсоткавымі носьбітамі турэмна-лагерна-блатной псіхалогіі і ідэалогіі ў талерантным і абыякавым грамадстве сённяшняй Беларусі.

Не будзем удакладняць нацыянальную прыналежнасць тых ініцыятараў, але адназначна можна сказаць, што яны вольна ці міжвольна — наўмысна ці па наіўнай дурасці — фарміруюць непавагу да Беларусі, да ўсяго беларускага. Назва ж гэтай з'яве, па вызначэнні Ф.М. Дастаеўскага, — смердзюкоўшчына.

І яшчэ. Хіба можна ўявіць сабе, каб у Расіі, ва Украіне, у Польшчы, у Літве, іншых землях якія-небудзь аб'екты ці тавары могуць мець назвы: «маскаль», «кацап», «хахол», «пшэк», «лабус» і г.д. А сёе-тое з гэтага моўна-разумовага смецця зафіксавана ў згаданым вышэй слоўніку.

Дарэчы, гэты слоўнік утрымлівае ў сабе і бліскучы артыкул акадэміка Д. С. Ліхачова «Черты первобытного примитивизма воровской речи», напісаны ў 1935 годзе, адразу пасля вызвалення літаратуразнаўцы з лагера ў Салаўках.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81. novychas@gmail.com; www.novychas.org

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 246

Падпісана да друку 01.03.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.